Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# БЯРОЗКА

№ 2

Люты 1946 г.

*Штомесячны дзіцячы часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМБ*

Выдавецтва ЦК ЛКСМБ



# ДЭПУТАТЫ СОВЕЦКАГА НАРОДА

10 лютага совецкі народ выбіраў дэпутатаў у Вярхоўны Совет СССР.

100.621.225 чалавек (або 99,18 процантаў ад агульнага ліку выбаршчыкаў) аднадушна аддалі свае галасы за лепшых сыноў народа—комуністаў і беспартыйных. Усе выбаршчыкі, як адзін, заявілі:

— Мы бязмежна давяраем любімай комуністычнай партыі! Мы выказваем сваю шчырую любоў вялікаму нашаму правадыру, які выратаваў Радзіму,—роднаму Сталіну!

Хто-ж яны—дэпутаты совецкага народа?

Першым у спісу дэпутатаў стаіць імя ўсенароднага дэпутата Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна.

Гэта самае дарагое імя першым было названа ўсімі выбаршчыкамі нашай краіны. Таварыша Сталіна аднадушна абралі сваім дэпутатам масквічы ў Сталінскай выбарчай акрузе. Але ўсё-ж таварыша Сталіна завуць сваім дэпутатам усе совецкія людзі, дзе-б яны ні жылі. Так хоча совецкі народ. Так бязмерна народная любоў і пашана да роднага таварыша Сталіна.

Многа слаўных, вядомых усяму народу імён красуецца ў спісу дэпутатаў.

Сярод іх—бліжэйшыя саратнікі Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна: таварышы Молатаў, Калінін, Берыя, Мікаян, Маленкоў, Жданаў, Варашылаў, Андрэеў, Кагановіч. Хрушчоў, Швернік, Вазнясенскі.

Сярод іх—знатныя людзі краіны: лепшыя рабочыя, калгаснікі, славутыя маршалы, Героі Совецкага Саюза, выдатныя вучоныя, пісьменнікі, настаўнікі.

Беларускі народ паслаў у Вярхоўны Совет СССР 56 дэпутатаў. Сярод іх—кіраўнік беларускага ўрада і комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі таварыш Панамарэнка Панцелеймон Кандрацьевіч, народны паэт Якуб Колас, Маршалы Совецкага Саюза таварышы Варашылаў і Цімашэнка, кіраўнік беларускага комсамола таварыш Зімянін, лепшая работніца друкарні імя Сталіна таварыш Зіма, знатны ў рэспубліцы калгаснік таварыш Батоўкін і інш.

У сваёй прамове перад выбаршчыкамі таварыш Сталін паставіў перад дэпутатамі і ўсім народам вялікія задачы на бліжэйшыя гады. Нам трэба зараз аднавіць усё тое, што было знішчана і разбурана лютымі нямецкімі фашыстамі, і дабіцца далейшага росквіту прамысловасці, сельскай гаспадаркі і культуры. Наша Радзіма павінна стаць самай багатай і магутнай дзяржавай у свеце.

— Як таварыш Сталін сказаў, так яно і будзе!—дружна адказалі на прамову правадыра ўсе совецкія людзі і з новымі сіламі ўзяліся за вялікую творчую работу.



Народны Камісар Узброеных Сіл і Вярхоўны Галоўнакамандуючы
Узброенымі Сіламі Саюза ССР Генералісімус Совецкага Саюза
Іосіф Вісарыёнавіч СТАЛІН.

# ПЕСНЯ
## ЮНЫХ ПІОНЕРАЎ

*Сяргей МІХАЛКОЎ*

Бацькі за свабоду жыццё аддавалі,
На бітвы хадзілі не раз.
Стваралі ў змаганні і ЛЕНІН і СТАЛІН
Радзіму Советаў для нас.

Прыпеў:

У бацькоў-комуністаў вучыся заўсёды
І прыклад бяры з іх цяпер.
Вучыся, працуй і жыві для народа,
Совецкай зямлі піонер!

Каб мы комсамольскаю зменаю сталі,
Каб славілі нас у жыцці,—
У працы, ў навуцы, як ЛЕНІН і СТАЛІН,
Мы будзем наперад ісці!





Прыпеў:

У бацькоў-комуністаў вучыся заўсёды
І прыклад бяры з іх цяпер.
Вучыся, працуй і жыві для народа,
Совецкай зямлі піонер!

Мы слова сваё піонерскае далі:
Радзімы дастойнымі быць.
І нашу Радзіму, як ЛЕНІН і СТАЛІН,
Заўсёды аддана любіць!

Прыпеў:

У бацькоў-комуністаў вучыся заўсёды
І прыклад бяры з іх цяпер.
Вучыся, працуй і жыві для народа,
Совецкай зямлі піонер!

*Пераклаў Пятрусь Броўка.*

# У баях за Радзіму

## БІТВА НА ВОЗЕРЫ ЧУДСКІМ



Цяжкі момант перажывала Русь у другой чвэрці XIII века. Узброеныя нямецкія псы-рыцары напалі на рускія землі. Агні пажараў асвяцілі руіны паселішчаў. Немцы рабавалі і знішчалі насельніцтва, не шкадуючы дзяцей і старых. Захапіўшы Пскоў, ворагі рушылі да ноўгародскай зямлі. З галавы да пят яны былі закуты ў жалеза і сталь.

Трывожна зазваніў тады старажытны вечавы звон, склікаючы ноўгародцаў на сход.

Ноўгародскі князь Аляксандр Неўскі звярнууся да народа:

— Русь у небяспецы. Прагонім нямецкую нечысць прэч са святой Рускай зямлі! Не бываць немцу гаспадаром у нашых гарадах!

На голас князя прышлі ратныя людзі з усіх канцоў Рускай зямлі. Прышлі пад сцяг Неўскага і пакляліся:

— Перамагчы або памерці!

Аляксандр Неўскі штурмам узяў крэпасць Капоры і нечаканым ударам вызваліў Пскоў. Але рашаючая бітва з нямецкімі псамі-рыцарамі адбылася 5 красавіка 1242 года на лёдзе Чудскога возера.

Толькі ўзышло сонца, як паказалася нямецкае войска. Спакойна стаялі бясстрашныя воіны Аляксандра Неўскага. Яны падрыхтаваліся да сустрэчы ворага.

І калі грозны «клін» немцаў урэзаўся ў рады рускіх войск, прагрымеў заклік Аляксандра: «За родную Русь!» Завязалася страшэнная бітва. Рускія білі немцаў з усіх бакоў. Усюды сеяў смерць немцам рускі меч.

Чырвоным ад нямецкай крыві стаў лёд Чудскога возера. А калі лёд праламаўся, закутыя ў браню псы-рыцары пайшлі на дно возера...

«Была сеча злая,—пісаў пазней летапісец.—І секлі іх рускія воіны, і некуды было ім дзецца...»

Гэтая бліскучая перамога рускіх над немцамі на лёдзе Чудскога возера ўвайшла ў гісторыю пад назвай «Лёдавае пабоішча».

## НЕМЦЫ ПАБЕГЛІ НАЗАД



Варашылаў прапанаваў Бокуну разгарнуць чырвоны сцяг і несці наперадзе, побач з сабой. Ён падняў вінтоўку і бег, не згінаючыся, пад кулямі.

Байцы сталі забягаць наперад яго. Атрад, разгарачыўшыся, бегма спяшаўся на немцаў...

Немцы не чакалі такога націску,—агонь іх рабіўся ўсё больш таропкім, усё больш разгубленым...

— Ура!—закрычаў Варашылаў, прасоўваючыся праз натоўп наперад.

— Ура!—падхапіў Бокун, размахваючы сцягам.—Ура! Ура!..

Прахвацілаў, абодва Крываносы, Салох, — з шырока раскрытымі вачыма, раздзіраючы крыкам горла, — заскочылі наперад, кідалі гранаты...

Немцы не прынялі штыкавога бою—падняліся, адстрэльваючыся, падаліся назад... пабеглі...

(З аповесці «Хлеб» А. Талстога).



## БЯССМЕРЦЕ

Гэта было 23 лютага 1943 года.

На світанні група лейтэнанта Арцюхова выходзіла з лесу. Засталося толькі прайсці паляну, і там пачыналася ўжо вёска Чарнушкі. Але немцы ўмацавалі подступы да вёскі. Агонь трох дзотаў не змаўкаў ні на хвіліну. Два дзоты хутка былі падаўлены, але трэці ўсё яшчэ страляў.

Некалькі аўтаматчыкаў спрабавалі падпаўзці да дзота, але былі паранены або забіты.

Страшэннай нянавісцю да ворага загарэлася сэрца радавога Аляксандра Матросава.

— Цяпер я пайду,—сказаў ён камандзіру.

Ён поўз хутка. Вось Матросаў ужо зусім блізка ад дзота. Галоўнае—быць спакойным. Прыўзняўшыся на калені, ён кінуў адну гранату, потым другую. Кулямёт замоўк, пачуліся радасныя крыкі «ура». Але раптам немцы зноў пачалі страляць з дзота.

Што мог зрабіць супроць яго Матросаў? Гранат у яго не было, патронаў—таксама.

Але ёсць такое вялікае пачуццё ў чалавека—вернасць Радзіме. Матросаў зразумеў, што яго смерць зараз можа выратаваць жыццё соцень людзей і прынесці перамогу ім. Трэба было толькі падняцца і целам сваім спыніць смяротны нямецкі агонь.

І Матросаў падняўся і, шырока раскінуўшы рукі, упаў на амбразуру. Сваёю смерцю Аляксандр Матросаў забяспечыў перамогу над ворагам. Шлях да вёскі Чарнушкі быў вольны...

Імя Героя Совецкага Саюза гвардыі радавога Аляксандра Матросава навечна занесена ў спіскі 1-й роты 254 Гвардзейскага палка імені Аляксандра Матросава.



## ТАРАН

Самалёт зялёна-бруднага колеру з фашысцкімі чорнымі крыжамі ляцеў бамбіць Маскву.

На шэрым мундзіры нямецкага падпалкоўніка, камандзіра самалёта «Хейнкель», блішчэў жалезны крыж—вышэйшая фашысцкая ўзнагарода, атрыманая за Польшчу. На рукаве быў вышыты знак—узнагарода за Нарвік. На Маскву ляцеў спрактыкаваны нямецкі ас. Ён ляцеў адзін таму, што ўсе самалёты яго атрада, пад напорам совецкіх знішчальнікаў, павярнулі назад, не скінуўшы ніводнай бомбы.

Малады лётчык-беларус Віктар Васільевіч Талаліхін яшчэ здалёк заўважыў нямецкі «Хейнкель».

— На Маскву?—выкрыкнуў Талаліхін.—Туды табе шлях забаронен. Не прайсці!

І, набіраючы вышыню, ён пайшоў услед за драпежнікам. Талаліхін парашыў дагнаць нямецкі бамбавоз і знішчыць яго яшчэ на подступах да горада. Дагнаўшы «Хейнкель», ён зайшоў яму ў хвост і з кулямёта вывеў з строю правы матор. Але «Хейнкель» і з адным маторам усё яшчэ ляцеў, а ў Талаліхіна не было патронаў. — «Уцячэ... трэба знішчыць»,—парашыў совецкі лётчык. У гэты час варожая куля, выпушчаная з «Хейнкеля», апякла яму руку.

Рызыкуючы сваім жыццём, Талаліхін парашыў ісці на таран. Сціснуўшы зубы ад болю, ён накіраваў свой самалёт на машыну ворага... Адна секунда... Машыну падкінула... пачуўся трэск, і хвост «Хейнкеля» разляцеўся на кавалкі. Выкінуўшы полымя агню, нямецкі самалёт штопарам пайшоў уніз.




*Іван ГРАМОВІЧ*

*Мал. А. Волкава*

Лёнька Лазарчык папаў у батарэю ў цяжкія дні. Тады нашы войскі адыходзілі на ўсход. Артылерысты прытулілі яго, як сірату-бежанца. Лёнька сказаў, што па дарозе іх разбамбілі нямецкія самалёты. Маці яго была забіта, а бацька з першага дня вайны пайшоў у армію.

— Ну, вось, а мы па «Юнкерсах» агонь вядзём,—сказаў камандзір батарэі.—Будзем разам помсціць.

Батарэя зенітных гармат прыкрывала нашы пераправы ад варожай авіяцыі. Лёнька Лазарчык акрыяў, залячыў параненыя ногі і, аднойчы, выказаў незадаволенасць, што ён не на самай лініі агню, а быццам у тылу.

— Ты яшчэ мала гаршкоў шкрэбаў з-пад кашы, —адказаў яму санінструктар Целякоўскі.

Тады Лёнька задумаў пакінуць сваіх выратаваўцаў.

— Куды ты сабраўся?—запытаўся ў яго Целякоўскі.

— Туды,—паказаў ён у бок, адкуль чулася кулямётная страляніна і ноччу ў небе трымцелі ракеты.

— Якраз цябе там не хапала. А тут што?

— Тут каля скляпка ўсякі можа пастаяць.

Лёнька асабліва быў нездаволены тым, што ў час баявой трывогі яму даручалі займаць месца не каля гармат, а бегчы і падмяняць вартавога каля скляпка са снарадамі.

— Ці бачыш ты яго? Цябе можа камандзірам батарэі паставіць? — пачаў дражніць яго Целякоўскі.—Ты-ж снарад не паднімеш, махавік гарматы не павернеш.

Лёнька моўчкі слухаў абразы.

— А можа, ты на «ПУАЗО» * хочаш? Пачакай, пачакай. Ты ў якім класе займаўся?

— У шостым,—панурыўшы галаву, адказаў Лёнька Лазарчык.

— А-а, у шостым?—выгукнуў Целякоўскі, прыўзняўшы галаву.—Вось, вось, з такой адукацыяй у нас, у зенітчыкаў, па ваду для кухні хадзіць трэба, капцёрку падмятаць і так далей, і так далей.

Гэта яшчэ больш штурхала Лёньку Лазарчыка ўцячы з батарэі. Аднак, зрабіць гэта яму не ўдалося.Тут ён выслухаў сухую суровую вымову камандзіра батарэі. А яго Лёнька паважаў, як бацьку.

— Плача, плача, плача...—зноў прычапіўся да яго Целякоўскі.

— Ты сам заплачаш,—сярдзіта адказаў Лёнька з поўнымі слёз вачыма.

* Прылада для ўпраўлення агнём зенітнай артылерыі.

Сержант Целякоўскі быў прызваны ў Чырвоную Армію з запаса ў першыя дні вайны.

— Ваша спецыяльнасць?—запыталіся ў яго.

— Фармацэўт.

— А ў арміі кім служылі?

— Сержантам.

— Кім хочаце быць на батарэі?

— Хацеў-бы не забываць сваёй спецыяльнасці,—адказаў непаваротлівы Целякоўскі.—Я выдатна ведаю санітарную справу...

Паглядзелі на яго і сказалі:

— Дайце яму сумку з чырвоным крыжам.

Санінструктар сержант Целякоўскі пачаў лячыць хворых, рабіў перавязкі, але ўсё вельмі павольна. Вось гутаркі аб інфекцыі, аб дэзінфекцыі ён ахвотна праводзіў. Повара часта абгульваў у шашкі. Калі пачынаўся налёт варожай авіяцыі і батарэя адкрывала агонь, ён павінен быў знаходзіцца на камандным мосціку. Адтуль усё было відаць: усе гнёзды, усе ровікі і акопы, каму ў першую чаргу дапамагчы. Але там, як пчолы, зумкалі асколкі снарадаў. А ў начныя налёты, калі варожыя бамбавозы скідвалі асвятляючыя бомбы, дык ад бляску ўзнікала такое адчуванне, што хоць у зямлю хавайся.

І вось Лёнька Лазарчык дачуўся ад прыбарыстаў, што ноччу, у часе бою, Целякоўскі часта заходзіць у зямлянку прыборнага аддзялення. Зямлянка знаходзілася ў цэнтры агнявой пазіцыі, і, калі аддзяленне вяло агонь, яна пуставала.

Лёнька парашыў, як будзе налёт, зачыніць у зямлянцы прыбарыстаў «Бусоля».

«Бусолем» зваўся на батарэі сабака-аўчар. Яго падараваў старшыні нейкі дзядзька. Батарэйцам ён спадабаўся: шэры, вострыя чуткія вушы, а разумныя зялёныя вочы так і ловяць кожны рух таго, хто з ім забаўляецца. Зенітчыкі назвалі яго сваім артылерыйскім імем: «Бусоль».

Лёнька Лазарчык стаў і гаспадаром і непасрэдным начальнікам «Бусоля». Ён адказваў за яго паводзіны, за выхаванне. Сэрца Лёнькі крыху ўцешылася гэтым, бо якраз «Бусоль» з'явіўся на батарэі ў той час, калі ён, пакрыўджаны Целякоўскім, збіраўся ўпрочкі. І вось у першы бой, калі гарматы адкрылі стралянiну, «Бусоль» сарваўся з ланцуга і збег з пазіцыі. Яго адшукалі і прывялі зноў. Ён пачаў прывыкаць да свайго роду войск. Але трэба было дзівіцца, якія вяроўкі перагрызаў «Бусоль», як кідаўся аб зямлю каб уцячы, калі батарэя адкрывала стралянiну.



*Як звычайна, на кухні быў санінструктар Целякоўскі.*

Чулая спрактыкаванасць Лёнькі Лазарчыка прывучала «Бусоля» да кананады. У той вечар, калі ён зачыніў «Бусоля» ў зямлянцы, зенітчыкі старанна рыхтаваліся да бою. Батарэя збіралася адбіць масіраваны налёт варожай авіяцыі. Жалезны мост, які ляжаў цераз шырокую раку, артылерысты абаранялі трыма батарэямі, бо па ім дзень і ноч ішлі эшалоны паяздоў. Яны везлі ўсё патрэбнае для фронта. Нашы войскі тут збіраліся перайсці ў наступленне. Лёнька акінуў поглядам сваю пазіцыю. Дальнамершчыкі вывяралі дальнамер па лінейцы, прыбарысты дапамагалі гарматным камандам падносіць снарады ў нішы. Нешта ваесадніла ў грудзях Лёнькі ад таго, што ён не ўдзельнічае ў гэтым руху на батарэі. Ён павярнуўся і пайшоў на кухню. Трэба было павячэраць, бо хто яго падменіць на пасту, калі пачнецца налёт? У кожнага будзе сваіх абавязкаў шмат.

Як звычайна, на кухні быў санінструктар Целякоўскі.

— Вось і... «дзе мая вялікая лыжка»,— жартам спаткаў ён Лёньку Лазарчыка.

Лёнька нічога не адказаў.

— Кепска клапоцішся аб сваіх падначаленых,—казаў далей Целякоўскі.— У «Бусоля» на хвасце жукі. Расчасаць трэба... Трапіш калі-небудзь у палявую артылерыю—зразумееш. Там на хвасце каня, на капыце, на грыве ўся служба салдата стаіць.

— Чаго ты прычапіўся? — перапыніў яго повар, заступаючыся за Лёньку.—Дай яму павячэраць.

— Мне лыжка не палезла-б у рот, калі-б «Бусоль» такім хадзіў па агнявой,—казаў усё нібы жартам Целякоўскі.—Вось як ты, таварыш Лазарчык, падрыхтаваўся да налёту, га? Прывязаў да вішні «Бусоля»? А ён возьме і сарвецца. Зноў збяжыць.

«Не сарвецца»—падумаў Лёнька, успамінаючы «Бусоля», зачыненага ў зямлянцы прыбарыстаў.

— Глядзіце вы не збяжыце сягоння,— буркнуў ён над кацялком.—Кажуць, вы не вельмі любіце налёты...

— Э-э-э!—прагаварыў Целякоўскі, ківаючы галавой.—Ты яшчэ, як кажуць, малада-зелена...

Раптам завыла сірэна. Абодва выбеглі з кухні.

У самы разгар бою, калі ў паветры засвісцелі асколкі, санінструктар непрыкметна для камандзіра батарэі адлучыўся і пайшоў. «Зайду ў зямлянку,—парашыў ён, — можа крыху супакоіцца ў паветры..»

Але толькі ён пацягнуў да сябе дзверы зямлянкі, як нечыя дужыя лапы піхнулі яго ў грудзі, збілі з ног. Целякоўскі распластаўся, яго сталёвая каска бразнулася аб цагліну. Калі ён апамятаўся, дык ля яго ўжо нікога не было, а над ім высока ў цемры, як каласы, хісталіся праменні пражэктараў.

Целякоўскі крыху пасядзеў, потым устаў і пачаў шукаць каску на дне акопа. Яму зразумела было, чый гэта ўчынак.

«Вось я табе пакажу!—прашаптаў ён, ідучы да скляпка са снарадамі.—Як сыйдзеш з паста, задушу разам з тваім «Бусолем».

Але няварта было пагражаць.

Лёнька Лазарчык, як заўсёды, дабег да скляпка і стаў на пост. Яго мучыла крыўда.

Хіба не крыўдна, што цябе яшчэ лічаць малым? І сапраўды, чаму яму не быць ля гармат, або ў разведцы? Стаяць каля склепа са снарадамі—самая нікчэмная справа. Снарады нікуды не збягуць. Немцы тут не з'явяцца — далёкі тыл. Таму Целякоўскі і абзывае «малада-зелена», гаворыць «ты яшчэ мала гаршкоў пашкроб з-пад кашы».

Тымчасам пачаўся налёт.

Спачатку ў праменнях двух пражэктараў з'явіўся варожы бамбардыроўшчык. Ён хутка пачаў зніжацца, страляючы трасіруючымі кулямі ў пражэктары. Пра-

бок, з яго палыхнуў агонь, і ён стаў падаць уніз.

Лёньку Лазарчыка апанавала вялікая радасць. Ён не мог устаяць на месцы і пачаў хадзіць вакол скляпка. Хадзіў ён хутка, прыслухоўваўся да галасоў на батарэі і сціскаў у руцэ карабін,—і толькі тады супыніўся, калі над галавой пачулася свісцячае шыпенне. І раптам быццам нехца дужым штуршком выбіў у Лёнькі Лазарчыка з-пад ног зямлю.

Гэта другі варожы пікіроўшчык наляцеў на батарэю.

Быццам град, пасыпаліся на зямлю запальныя бомбы. Адна ўрэзалася ў грунт ля самых ног. Успыхнуўшы асляпляючым агнём, яна асвяціла Лёньку, скляпок са снарадамі і вішні. Лёнька Лазарчык здзівіўся, што над ім раптам нахіліліся высокія пабялелыя кучмы вішань.

«Чаго-ж я ляжу?»—падумаў Лёнька. —Дзе-ж рыдлёўка? Дзе пясок? Тушыць трэба».



*Ён хапіў дажджавік і пачаў ім біць па полымю.*

мень святла залатым пункцірам пранізалі кулі. Але пражэктарысты не спынялі свяціць, яны вялі самалёт у абдымку. Да іх далучылася яшчэ некалькі блакітных праменняў. Цяпер фашысцкі бамбавоз, як велізарны павук са светавымі лапамі, поўз па начным небе.

Батарэя Лёнькі Лазарчыка чамусьці не завіхалася адкрыць агонь. Лёнька нават пачаў траціць цярплівасць. Ён чуў каманды ўзводнага, камандзіраў гармат і не разумеў, чаму яны марудзяць, чаму не страляюць. Ужо выразна былі відаць крыжы на плоскасцях бамбавоза.

Амаль у самым зеніце грымнулі залпам чатыры гарматы. У Лёнькі зазвінела на галаве сталёвая каска. Затым яшчэ два і яшчэ. Бамбардыроўшчык пахіліўся на

Перамагаючы боль, ён устаў і кінуўся да бочак з пяском. Набраў кашэль пяску. Тут бомба трэснула і разарвалася, раскідваючы вакол залатыя вугаллі тэрмітнага агню. На Лёньку загарэлася гімнасцёрка. Далонямі ён затушыў полымя. Потым пачаў засыпаць пяском вогнішча. А галава так балела, што зварухнуцца нельга было. Ён узяў абедзвюма рукамі яе і не пачуў дотыку сваіх рук. На лобе быццам сачыўся пот. Але ён быў такі густы, як верацёнка, што змазваюць карабін.

Тым часам над вішнямі ўжо чырванела зарава. З прыадчыненых дзвярэй скляпка таксама бліснуў агеньчык. Дрыжачымі нагамі Лёнька па сходцах пайшоў у скляпок.

Бомба прабіла земляны насціл страхі склепа і загарэлася ля пярэдніх скрынак са снарадамі. Трэба было ратаваць снарады. Лёнька ўмомант зразумеў, што калі пачне гарэць скляпок, калі пачнуць узрывацца снарады, дык не толькі гэтага месца, а можа, нават усяе агнявой пазіцыі не застанецца.

А рукі, апаленыя на агні, ужо не слухаліся. І вейкі воч склейвала густая цёплая верацёнка.

У кутку Лёнька Лазарчык заўважыў дажджавік вартавога. Ён хапіў яго і пачаў ім біць па сініх языках полымя. Толькі хіба так затушыш агонь?

Кінуўшы брэзентавы дажджавік на вогнішча, Лёнька пабег па сходках угару. Крыкнуць на батарэю? Ішла страляніна — не пачуюць. Бегчы туды самому? Які-ж гэта вартавы, што пакідае абараняемы аб'ект? Ды і позна прыдзе дапамога.

З усяе сілы Лёнька ўхапіўся за кадушку з пяском. На сходцах яна яго перамагла: перакулілася цераз яго і скацілася ў склеп, рассыпаючы сыпучы жвір.

Хістаючыся, Лёнька убег за ёю, набраў прыгаршчы пяску і пачаў засыпаць, заціраць тлеўшыя сцены скрынак са снарадамі. Ён ужо не адчуваў болю ў руках.

Калі сярод скляпка з-пад пяску зноў успыхнуў струмень тэрмітнага агню, Лёнька Лазарчык памкнуўся тушыць, але зачапіўся за дажджавік і ўпаў на агонь грудзьмі. Ён закрыў сабой усе зіхацеўшыя іскры. Ён прыціснуў іх усім сваім целам. Ён курчыўся, зграбаў рукамі пад сябе пясок і, урэшце, яму здалося, што ён паплыў па шыпячым, плаўкім вогнішчы...

Праз хвіліну санінструктар Целякоўскі бінтаваў яму галаву. Потым прынёс вады.

Калі налёт адбілі, прышоў камандзір батарэі.

— Мацуйся, герой!—ласкава сказаў ён Лёньку Лазарчыку.

— А ты казаў—тут малаважнае месца...

Целякоўскі бегаў ля Лёнькі, як ужалены пчалой. Здавалася, ніколі не было ў яго такой заўзятай рухавасці.

Тут стаялі вакол байцы. Быў ужо дзень. У нагах Лёнькі сядзеў сабака-аўчар і разумнымі вачыма глядзеў на свайго гаспадара.

— Хадзі сюды, «Бусоль», паклікаў яго Лёнька.

Ніхто не ведаў, чаму ў Целякоўскага абшарпаны нос...

— Пайшоў вон! — замахнуўся ён на сабаку. — Няхай ён здохне, твой «Бусоль»!

Пасля гэтага налёту больш ніколі не кпіў Целякоўскі з Лёнькі Лазарчыка і не абзываў яго, дражнячы, — «молада-зелена».





Старшыня Соўнаркома БССР і Сакратар ЦК КП(б) Беларусі
Панцелеймон Кандрацьевіч ПАНАМАРЭНКА

# ЦЁТКА

*Алеся АЛЕКСАНДРОВІЧ*

*Мал. Ф. Круглянскага*

У лютым споўнілася 30 год са дня смерці першай беларускай паэтэсы-рэвалюцыянеркі Цёткі. Сапраўднае прозвішча яе Алаіза Пашкевіч. Бацькі яе жылі на Лідчыне, у фальварку Стары Двор. У гэтым фальварку 3 ліпеня 1876 года і нарадзілася паэтэса. Трохгадовай дзяўчынкай яе і малодшага брата адаслалі жыць да бабкі. Бабка і нянька Ягася вельмі любілі маленькую дзяўчынку за чулае сэрца і пяшчотнасць. Ад бабкі малая Алаіза навучылася грамаце. Ад бабкі і нянькі Ягасі яна наслухалася шмат беларускіх казак і песень.

Пасля смерці бабкі дзяцей зноў адвезлі да бацькоў. Алаізе было тады 9 год. Дома яе і другіх дзяцей вучылі прыватныя настаўнікі. Усе яны ў адзін голас адзначалі вялікія здольнасці Алаізы да навукі і раілі бацьку паслаць яе вучыцца ў Вільню. Бацька доўга не згаджаўся, бо лічыў, што для дзяўчынкі вялікай навукі не трэба. Але ўсё-ж, нарэшце, даў згоду, і Алаізу адвозяць у Вільню.

Было гэта ў 1892 годзе. Алаіза паступае ў чацверты клас гімназіі Прозаравай. Гэта гімназія лічылася ў Вільні адной з лепшых. Але кепскі стан здароўя прымусіў яе спыніць навучанне ў шостым класе. Год яна жыла на вёсцы і працавала настаўніцай, а затым зноў паехала вучыцца ў тую-ж гімназію. У 1901 годзе ёй удаецца ўсё-ж скончыць гімназію. Праз год яна едзе вучыцца далей у Пецербург, дзе паступае на педагагічныя курсы Лесгафта. У Пецербургу яна жыве да 1904 года. Там яна зблажаецца з рэвалюцыянерамі, пачынае сама прымаць удзел у рэвалюцыйным руху.



*Алаіза Пашкевіч (Цётка).*

У гэты час яна пачынае пісаць свае паэтычныя творы, якія падпісвае рознымі псеўдонімамі, але часцей за ўсё прозвішчам Цётка.

Асабліва шырока разгортваецца яе рэвалюцыйная і літаратурная работа ў Вільні ў 1905 годзе.

Цётка часта выступае на сходах рабочых з гарачымі прамовамі, у якіх заклікае да барацьбы супроць цара. У сваіх вершах яна ўслаўляе рэвалюцыйную барацьбу, захапляецца ёю:

Такі бой вякамі жджэцца,  
Такі бой гігантаў дасць,  
У такім бою толькі грэцца,  
У такім бою толькі пасць.

Паэтаса з радасцю зазначае, што ўсе народы: рускія, украінцы, беларусы, літоўцы — «гоняць вон цара-зладзея». Вершы яе трапляюць у рукі паліцыі. За Цёткай пачынаюць сачыць. Яе хочуць арыштаваць, і яна вымушана пакінуць Вільню і выехаць у Львоў.

У Львове Цётка зноў бярэцца за на-

вуку. Яна паступае ў Львоўскі універсітэт. Жывучы ў Львове, яна адчувае сябе адарванай і вельмі сумуе па роднаму краю, па роднаму народу. Толькі ў 1911 годзе ёй удаецца вярнуцца на радзіму. Цётка зноў з вялікім энтузіязмам бярэцца за працу.

Вялікую ўвагу Цётка аддавала дзецям. Яна напісала першы беларускі падручнік для дзяцей — «Першае чытанне для дзетак беларусаў». Гэты падручнік быў надрукаваны ў Пецербургу ў 1906 годзе. У 1914 годзе Цётка рэдагуе першы беларускі дзіцячы часопіс «Лучынка», які выходзіў у Мінску.

У 1916 годзе ад тыфу паміраe бацька Цёткі. Яна едзе на пахаванне. Увесь Лідскі раён быў ахоплен эпідэміяй. Цётка, не шкадуючы ні сіл, ні здароўя, ездзіць па вёсках і лечыць людзей (Цётка многа год працавала медыцынскай сястрой у вайсковых шпіталях, праводзячы там вялікую рэвалюцыйную работу). У адну з такіх паездак яна сама захварэла тыфам. 5 лютага 1916 года бязлітасная хвароба загубіла яе.

На яе пахаванне сышліся сяляне з навакольных вёсак, каб правесці ў апошняе падарожжа свайго друга. Цётку пахавалі ў фальварку Стары Двор, дзе яна і нарадзілася.

Прайшло многа гадоў, а вершы Цёткі не забываюцца, хвалююць нас. Мы любім іх, бо яны вучаць нас настойлівасці і ўпартасці, бо яны вучаць нас любіць народ і сваю Радзіму.

# ЛЕС

Высокі лес, шумі, скрыпі, расу хавай, у раку ўлівай, грыбы расці, не дай цвісці жалобным кветкам. Нясі палеткам свой доўгі цень; кладзі на пень у гірлянды мох, сцялі пасцель, каб кожны мог тут адпачыць.

Высокі лес, ці чуеш гром, як ён злуе з усіх старон? Як па дуплах дрыжаць зязюлі? Як хмара з хмарай пайшлі ў гулі?

Тарахнуў гром... Маланка паліць на вугаль чорны ўвесь гарэх. А вось і град па голлях смаліць. А вунь на злосць, а вунь на смех пярун на трое дуб разбіў. А вось пяць елак зачапіў круцясты віхар, гне іх ўдвое. А вось у гняздо сваё абое буслы ўпалі: пішчаць іх дзеці... Няманяма куды падзеці кустоў маліны перад бурай. А вось і зайчык дрыжыць шкурай. На кветках пчолак град пабіў. Паземкі з купін дожджык змыў. Усё хаваецца, дрыжыць. І лес увесь цямнюткі стаў. У голлях шум, у лесе штурм. На зямлю сцелецца павал.

* * *

Высокі лес, гусценькі лес, іскрыцца бела шата. У крышталях іва, бяроза сіва, у мароз прыбрата, чакае свята. Стаіць у дрымоце дубок пры плоце. Кусцік каліны апёр галіны на трухлях тоўстай борці. Заціхлі песні ў лістах чарэшні; у гнёздах пуста, дзе было густа птушак вясною.

Дзятва лясная да нас злятае з цёплага краю, аж з-за Дунаю. Зязюля кукуе, цецер такуе, дзяцел грукоча, сава рагоча, верабей ля хаты, смецюшок чубаты ды сястра сінічка—нашы вечны госці.



# Крапіва і Асот



— Што ты патыкаўся са мною?!—крычала Крапіва Асоту. — Ці я табе раўня? Нічога ты не робіш, ніхто цябе не знае: ветраеш недзе ў полі сярод аўсоў. Вось я дык увіхаюся: каго крапіва пацалуе, а хто крапіву дык і на абед згатуе. Кожны крапіву знае, кожны ўспамінае, на кожным панадворку расту я. Глядзі, ужо аж да прызбаў падпаўзла.

—Што-ж,—адказаў стары Асот, — я расту далей, бачаць мяне людзі радзей, але, мусіць, мае шпількі дык даўжэй помняць, як крапіўкі.

Падслухала іх гутарку малая дзяўчынка Марута ды кажа:

—Не хваліцеся: абое вы рабое! Мамка казала, што вас абодвух з коранем вырве.

# Мой сад

Стаіць мой сад пад белым цветам;
Нарцыз стыдлівых поўны крас;
Звісае бэз ў акно букетам,
Тульпанаў куст расцвіў зараз.

Цвіце ляўкой, ў пуках рабіна;
Вішнёва дрэва ў малацэ;
А там парэчка, там маліна,
А там мой граб малы расце.

Люблю мой сад, як расцвітае,
Як салавей свой трэль вядзе,
Як цвет галінку прыгінае,
Як пчолка мёд адтуль нясе.

Люблю мой сад ў маёвым ранку,
Як тоне ён ў расістай мгле,
Як ліпа шэпчацца пры ганку,
І як зязюлька ку-ку шле.

Люблю мой сад пад белым цветам,
Люблю, зялёны як стаіць,
Люблю, як грушы спеюць летам
І як работай ён кіпіць.

Люблю мой сад у позну восень,
Як плод звісае да зямлі,
Як голкі сыплюцца ад сосен,
Як залацяцца сліў лісткі.

Люблю мой сад ў марозну зіму,
Як у крышталях ўвесь дрыжыць,
Як дзяцел, сеўшы на галіну,
Зімову песню загудзіць.

(З падручніка Цёткі «Першае чытанне»)






Ф. КОСЦІКАЎ

*Мал. А. Волкава*

## I

Тры разы пяхота палкоўніка Шэўчука падымалася ў атаку і столькі-ж разоў залягала. Немцы сцяной агню загароджвалі байцам шлях. Асабліва непакоілі совецкіх пехацінцаў варожыя шасціствольныя мінамёты. «Рыпучкі» (так называлі іх нашы байцы) клалі наперадзе наступаючых міну за мінай.

Палкоўнік Шэўчук нерваваўся. Толькі што вярнулася з задання разведка, але не прынесла жаданых вестак.

— Як-жа вы гэтыя «рыпучкі» не знайшлі?—нездаволена казаў разведчыкам палкоўнік.—Што-ж, па вашаму, немцы з неба сыплюць мінамі? На зямлі-ж яны дзесьці, а вы і пад зямлёю знайсці павінны. Ідзіце яшчэ раз і не вяртайцеся, пакуль мінамётаў не адшукаеце!—і палкоўнік, крута павярнуўшыся, вышаў з зямлянкі.

Быў ясны летні дзень. Добра ўгравала сонца. Дзе-ні-дзе, высока ў небе, стаялі белыя, як вата, нерухомыя воблакі. Блізка наперадзе чулася кулямётная і аўтаматная страляніна.

Палкоўнік дабраўся да назіральнага пункта.

Але вось з-за кустоў вышаў маёр Захараў—камандзір батальёна. Поплеч з ім ішоў хлапчук год трынаццаці. Ён быў маленькі, з худым бледным тварам. Левая рука яго была ў крыві.

— Чаму вы не пры батальёне?—крыкнуў палкоўнік маёру, але ўбачыўшы на яго твары шчаслівую ўсмешку, паспакайнеў. А калі маёр сказаў палкоўніку нешта па сакрэту на вуха, дык той раптам кінуўся да хлопчыка, абхапіў яго сваімі моцнымі рукамі і пачаў цалаваць, як роднага сына.

— Шчасце якое!— казаў ён. — Ад'ютант, медаль нясі... Не, «Славу»! Сын мой, колькі ты выратуеш сёння жыццяў!..

Ад'ютант прынёс ордэн «Славы» і палкоўнік сам прымацаваў яго да кашулі хлопчыка... Потым хацеў яшчэ раз абняць хлопчыка, але, убачыўшы кроў на руцэ, здагадаўся, што сарваў павязку з раны.

Хлопчыка накіравалі ў санбат, бо ён быў паранены ў руку. А праз некалькі хвілін совецкая артылерыя разбіла мінамёты ворага і пяхота заняла вёску.

## II

А было яно так.

У той дзень, калі совецкія войскі падышлі да вёскі і спыніліся за ракою, Сяргейка і дзед Савось сядзелі ў склепе. Бой пачаўся раніцою. Нямецкія гарматы, якія стаялі на агародах, адкрылі такі моцны агонь, што з столі склепа пасыпаўся пясок. Потым загрукацела кулямётная і аўтаматная страляніна, недзе наперадзе пачуліся невыразныя крыкі. Блізка, мусіць над самым склепам, з прарэзлівым свістам праляцелі снарады.

Дзед Савось і Сяргейка насцярожана прыслухоўваліся да гэтых гукаў. Але міналі гадзіны, а бой не сціхаў. Было ўжо блізка да паўдня, калі нямецкія батарэі пачалі раптам заціхаць. Відаць, многія з іх былі ўжо разбітыя. Але тыя, што яшчэ засталіся, стралялі, як і раней, зал-

пamі. Толькі залпы рабіліся ўсё слабейшымі і слабейшымі.

— Добра клююць нашы іх,—сказаў у той час дзед Савось унуку.—Чуеш, ужо толькі дзве ці тры іхніх гарматы страляе...

Але хутка і гэтыя гарматы заціхлі і тады ўнук і дзед пачулі крыкі «ура». Дзед дык ажно падняўся на свае слабыя ногі.

— Ну, от і скончылася! — радасна сказаў ён.—Цяпер мы ўжо ніколі не ўбачым гэтае пагані...

Але тут ён пачуў такое, ад чаго пабялеў у твары. Адзін за адным пачалі страляць шасцістволвныя мінамёты і крыкі «ура» заціхлі. Нейкі час з глухім бумканнем за вёскаю ўзрываліся цяжкія міны.

Стары сеў поплеч з унукам.

— А я і забыўся на гэтыя мінамёты,—сказаў ён.—Яны паставілі іх у канаве, так што нашым і не адшукаць. От, каб у мяне былі ногі.

Дзед Савось заўсёды так казаў: «От, каб у мяне былі ногі!» Гэта не значыць, аднак, што ў дзеда зусім не было ног. Ногі ў яго былі, але ад старасці і рэўматызму яны да таго аслаблі, што стары ледзьве на іх трымаўся.

— Дзедка, — сказаў Сяргейка. — Я пабягу і скажу, дзе мінамёты. У мяне ж ногі дужыя.

І перш чым дзед Савось паспеў што-небудзь адказаць, Сяргейка падхапіўся і выскачыў са склепа.

Ён бег да ракі, бо ведаў, што за ёю—балота, якім можна дабрацца да сваіх. Вакол свісталі кулі. Сяргейку зрабілася шкада дзеда. Застаўся ён цяпер адзін. Хто-ж яму прынясе вады, намочыць сухароў, наб'е тытуном люльку?

Так ён дабег да ракі і з берага скочыў у ваду і шпарка паплыў. Вось ужо і другі бераг. Сяргейка ўжо вылез з вады, калі над яго галавою зноў засвісталі кулі.

«Трэба паўзці», — падумаў ён і раптам зваліўся ад болю. Нешта цёплае пацякло па руцэ. Ён зірнуў і спалохаўся: гэта была кроў.

Хлопчык падпоўз да ракі, напіўся вады і яму стала лепш. Ён адарваў кавалак кашулі, абвязаў параненую руку і падаўся ў зараснікі. Немцы ўсё стралялі, але ў зарасніках яны ўжо не бачылі хлопчыка.

А ён, сціскаючы ад болю зубы, прабіраўся наперад. Так ён дабраўся да савецкіх байцоў, расказаў, дзе стаяць варожыя мінамёты. Байцы павялі яго ў штаб батальёна, а адтуль—да камандзіра палка...

Сяргейка застаўся ў палку. З ім ён прайшоў ад Віцебска да Кенігсберга. Спачатку быў пры камандзіры палка, а потым, па просьбе, яго залічылі ў роту разведчыкаў.



# Нашы продкі

*Віталь ВОЛЬСКІ*

## БРАТНІЯ ПЛЯМЁНЫ

У далёкім мінулым, больш тысячы год назад, увесь абшар Беларусі быў населен трыма ўсходне-славянскімі плямёнамі—крывічамі, дрыгвічамі і радзімічамі. З гэтых трох плямён і стварыўся ў працэсе далейшага гістарычнага развіцця беларускі народ.

Крывічы, найбольш вялікае і магутнае племя, займалі ў IX стагоддзі ўсю паўночную і паўночна-ўсходнюю Беларусь. Яны жылі ў межах сучаснай Полацкай, Віцебскай і Вілейскай абласцей і ў паўночных раёнах Мінскай і Магілеўскай. Шматлікія паселішчы крывічоў былі раскіданы ў прыгожай і маляўнічай мясцовасці, па ўзвышаных берагах Заходняй Дзвіны, яе прытокаў і па верхняй плыні Дняпра на поўдзень аж да мястэчка Копысь.

Асноўным цэнтрам крывічоў быў вялікі і слаўны горад Полацк. Крывічы мелі сваё ўласнае княжства, якое называлася, па імені галоўнага горада, Полацкім. Самі сябе полацкія крывічы называлі палачанамі, — ад імені рэчкі Полаты, на берагах якой узніклі іх першапачатковыя паселішчы. Ад гэтай рэчкі атрымаў сваю назву і горад Палацк, бо стаіць ён на тым месцы, дзе Полата злучаецца з Дзвіной.

Пасля Полацка буйнейшым горадам крывічоў на Беларусі быў Віцебск,—яго называлі ў той час малодшым братам Полацка. Крывічам належалі яшчэ і такія гарады, як Мінск, Орша, Барысаў, Лагойск, Лукомля, Заслаўе, Крычаў—ён называўся тады Крывічаў. Усе гэтыя гарады лічыліся «прыгарадамі» Полацка, бо ён быў паміж імі галоўным, і ўсе залежалі ад яго.

Мінск, прыгарад Полацка, у той час вялікага значэння не меў. Знаходзіўся ён якраз на мяжы крывічоў з дрыгвічамі і ўваходзіў у склад Полацкага княжства, хоць і быў створан і населен дрыгвічамі.

Дрыгвічы займалі ўсю цэнтральную, заходнюю і паўднёва-заходнюю Беларусь. Яны жылі па плыні ракі Прыпяці, ад вытокаў яе і да Дняпра, па Бярэзіне да Свіслачы, па Піне, Лані, Пцічы і Случы аж да вытокаў Нёмана, насяляючы такім чынам усю сучасную Палескую, Пінскую і Бабруйскую абласці і значную частку Мінскай, Баранавіцкай, Брэсцкай і нават Гродненскай. На захадзе мяжа дрыгвічоў ішла па Заходняму Бугу.



*Стары Полацк.*

Гэта было таксама шматлікае племя, якое мела сваё ўласнае княжства, вядомае пад назвай Тураўскага, бо сталіцай дрыгвічоў быў горад Тураў на рацэ Прыпяці. Акрамя Турава дрыгвічы мелі яшчэ гарады Пінск, Мазыр, Брэст, Драгічын, Слуцк, Клецк, Брагін, Рэчыцу, Рагачоў. Насялялі яны лясістую і балоцістую мясцовасць, якая да гэтага часу называецца Палессем.



*Палессе вясною.*

Паселішчы дрыгвічоў былі раскіданы сярод дзікіх першабытных лясоў, па ўзбярэжжы шматлікіх рэк і рэчак, між глыбокіх азёр і топкіх балот. У зямлі дрыгвічоў рэкі былі поўнаводныя і глыбокія. Павольна цяклі яны ў нізкіх з высокай травой берагах. Шматлікія звілістыя рэчкі і рачулкі з непрыкметнай плынню губляліся ў трысці і густых зарасніках асіны і вербалоза. Нялёгка было дрыгвічу прабірацца скрозь гушчар калючых зараснікаў і хмызняку. У лясным гушчары часта траплялiся ямы з цёмнай вадой. Дрыгвічу трэба было асцярожна хадзіць па сваёй зямлі, каб не праваліцца непрыкметна ў балотнае бяздонне, каб не загрузнуць па грудзі ў дрыгве. Трэба было ведаць, куды ставіць нагу, бо вільготная і вязкая глеба, пакрытая мохам, варушылася пры кожным руху. Вось чаму жыхары гэтай краіны, дрыгвічы, звычайна пераязджалі з месца на месца па вадзе ў чаўнах, высечаных з калоды.

Ад балоцістай мясцовасці яны атрымалі і назву сваю, якая паходзіць ад слова «дрыгва». Дрыгвічы — гэта значыць людзі, якія жывуць на дрыгве.

Радзімічы былі меншымі па колькасці і найбольш адсталымі з трох беларускіх плямён. Жылі яны ў паўднёва-ўсходняй частцы Беларусі, па плыні ракі Сожа, Іпуці і ў вытоках Снові, адкуль паселішчы іх дасягалі сярэдняй Дзясны. Заходняй мяжой радзімічаў быў левы бераг Дняпра, прыблізна ад мястэчка Копысь да злучэння з Дняпром Сожа. Назва племені радзімічаў паходзіць ад імені іх родапачынальніка—Радзіма.

Вялікіх гарадоў у зямлі радзімічаў не было. Не мелі яны і свайго ўласнага княжства. Найбольш буйнымі паселішчамі радзімічаў лічыліся Гомель, Прапойск, Чэрыкаў, Чачэрск, але ў той час гэта былі не гарады, а звычайныя сёлы сярод густога лесу. Некаторыя вучоныя лічаць, што спачатку галоўным цэнтрам гэтага племені было сяло Радомля, у Дрыбінскім раёне.

Крывічы, дрыгвічы і радзімічы былі звязаны між сабою кроўным сваяцтвам, блізкасцю мовы, адзіным узроўнем культуры і быту, агульнасцю прыродных умоў.

Да пачатку XIV стагоддзя гэтыя тры братнія плямёны, нашы продкі, зліліся ў адзін беларускі народ.

# ЯК ЖЫЛІ НАШЫ ПРОДКІ

Асноўным заняткам насельнікаў Беларусі ў X—XI стагоддзі было земляробства. Яны сеялі жыта, пшаніцу, ячмень, авёс, проса, грэчку, гарох, лён і каноплі.

У тыя часы земляробства патрабавала ад чалавека вельмі цяжкай, упартай і цярплівай працы, бо ўся зямля навокал была пакрыта густым лесам і балотамі. Продкі беларускага народа былі людзі дужыя і працавітыя. Яны не баяліся цяжкай працы. Для пасеву ім патрэбна было расчышчаць зямлю ад лесу. Яны высякалі дрымучы лес, выкарчоўвалі яго і палілі агнём. Сеялі яны на лясных пажарышчах, — называліся яны «лядамі». Попел ад спаленых дрэў і хмызняку служыў добрым угнаеннем. Буйна і высока ўзрасталі на ім каласы. З расчышчанай ад лесу і шчодра ўгноенай попелам цаліны нашы продкі збіралі багаты ўраджай.



*Бронзавая сякера. Знойдзена ў кургане каля г. Лепеля*

На адваёваным у лесе ўчастку яны сеялі на працягу трох-чатырох год, потым кідалі яго і палілі лес у другім месцы.

Зямлю яны разрыхлялі вострымі сукамі, якія потым пачалі называцца сохамі і матыкамі. Спачатку матыкі былі каменныя. Пры такім спосабе апрацоўкі зямлі людзі абыходзіліся без рабочай жывёлы.

Жыта жалі жалезнымі сярпамі, малацілі цэпам, а малолі ручнымі каменнымі жорнамі. Жорны гэтыя захаваліся на вёсцы да нашых дзён.

Жывёлагадоўля ў тыя часы не мела вялікага развіцця, бо для пашы сярод густых і дзікіх лясоў было мала вольнай зямлі, а ў земляробстве хатняя жывёла не была патрэбна. З хатніх жывёл былі ў нашых продкаў каровы, козы, авечкі, свінні, сабакі. Пасвілася жывёла на закінутых пасля ворыва ўчастках зямлі, якія не параслі яшчэ новым лесам. Коней было мала. Імі карысталіся толькі знатныя людзі. На конях яны ездзілі на вайну. Звычайныя людзі хадзілі і ваявалі пехатою, ці плылі ў чаўнах па шматлікіх рэках сваёй краіны.

* * *

У першабытных лясах Беларусі было шмат розных звяроў, а глыбокія і поўнаводныя рэкі і азёры былі багаты на рыбу. Дзікія гусі і качкі гняздзіліся ў зарасніках каля берага. У густой, непраходнай засені несціханым гоманам звінелі птушыныя галасы. Вялізныя вепры ўзрывалі вільготную зямлю ў глухіх закутках, пад магутнымі дубамі. З шумам і трэскам ламалі малады падлесак цяжкія кудлатыя зубры. Бурыя мядзведзі ласаваліся ягадамі, грыбамі, арэхамі і мёдам дзікіх пчол у дуплістых дрэвах. Па лясных рэчках будавалі свае хаткі руплівыя бабры. Па вузкіх звярыных сцежках чарадой ішлі на вадапой высокія, хударлявыя лосі, а драпежная рысь, схаваўшыся ў галлі, пільнавала іх зверху, каб нечакана скінуцца з дрэва на лося і перагрызці яму хрыбет.

Нашы продкі былі выдатнымі паляўнічымі. Яны добра ведалі ўсе норавы і звычкі дзікіх звяроў. Яны палявалі на мядзведзя, лося, вепра, бабра, лісіцу, ваверку, куніцу. Дзікія звяры давалі ім мяса для яды і скуры для цёплага адзення і абутку.

Вялікае значэнне ў жыцці нашых продкаў мела рыбная лоўля. Пры раскопках старажытных курганаў і гарадзішчаў вучоныя знаходзілі шмат усялякіх рыбацкіх прылад, многа рыбнай лускі і касцей.

Вельмі развіта было ў старажытнай Беларусі лясное пчалярства ці бортніцтва. Мёд і воск нашы продкі не толькі спажывалі самі, але і вывозілі, таксама як і звярыныя скуры, у іншыя краіны.

* * *

Нашы продкі выраблялі самі ўсе рэчы і прылады, якія былі ім патрэбны для жыцця і працы. Рэчы, якія былі знойдзены ў курганах, сведчаць аб досыць высокай культуры нашых продкаў.

Жылі яны ў драўляных будынках, аб-



*Жалезнае кап'ё нашых продкаў.*

кружаных моцным парканам з бярвенняў для абароны ад дзікіх лясных звяроў і ворагаў. Яны рабілі чаўны з дрэва і ўсялякія рыбацкія прылады. Яны ведалі ткацкае рамяство; з лёну яны ткалі сабе палатно, з скуры жывёл і дзікіх звяроў шылі сабе цёплае адзенне і абутак. З гліны яны ляпілі начынне, аздабляючы яго рознымі малюнкамі. Ганчарнае і бандарнае майстэрства было ў іх на высокім узроўні.

Некаторыя рэчы хатняга ўжытку, знойдзеныя ў курганах, захаваліся да гэтага часу ў жыцці беларускага селяніна. Глінянае начынне, напрыклад, зроблена так, як робіцца яно і цяпер на Беларусі. Збаны, міскі, конаўкі і гаршчкі маюць тую-ж самую форму і выгляд, упрыгожаны тымі-ж самымі малюнкамі, якія і зараз ужываюцца ў беларускай вёсцы. На папружцы старажытныя насельнікі Беларусі насілі скураныя мяшочкі з ножыкам, крэсівам і крэменем, якія нядаўна яшчэ можна было ўбачыць у старых сялян на Палессі. На нагах былі ў іх лапці з лыка ці з звярынай скуры.

У курганах знаходзяць шмат жаночых аздоб, бронзавых і сярэбраных, прыгожых па форме і дэталях,—пярсцёнкі, бранзалеты, завушніцы, абручы для галавы, пацеркі, шпількі. Вялікая колькасць гэтых аздоб сведчыць аб даволі высокім узроўні жыцця.

У курганах сустракаецца шмат рэчаў замежнага, галоўным чынам, усходняга паходжання. І гэта не дзіва, бо праз землі нашых продкаў праходзіў вялікі водны шлях, які звязваў паўночна-заходнія краіны Еўропы з краінамі паўднёвага ўсходу. Плямёны, якія насялялі Беларусь, вялі гандаль з народамі Скандынавіі, Грэцыі, Каўказа, Малой Азіі, Месапатаміі. Гандаль гэты ішоў па Дняпру на поўдзень, да Чорнага мора, а па Дзвіне і Нёману на захад да Балтыцкага мора. З Чорнага мора па Дняпру прыплывалі да нашых продкаў грэчаскія і арабскія купцы. Яны куплялі тут мёд, воск, звярыную поўсць, палатно, драўляныя вырабы, а самі прадавалі срэбраныя і бронзавыя рэчы, дарагія каляровыя тканіны, аздобы. Купцы з поўначы прывозілі на Беларусь жалезныя і сталёвыя вырабы, зброю, сякеры, сярпы. Нашы продкі куплялі жалезныя вырабы спачатку ў чужаземных купцоў, але потым навучыліся рабіць іх самі. Для гэтага яны пачалі здабываць і плавіць у печах балотную руду. Аб гэтым сведчаць нам рэшткі невялікіх печаў для выплаўкі з руды жалеза, якія былі знойдзены вучонымі ў розных мясцовасцях Беларусі. З жалеза нашы продкі рабілі сабе нажы, сякеры, сярпы, матыкі і зброю,—наканечнікі для стрэл і дзід.



*Бранзалет. Іх насілі жанчыны на руках.*

* * *

Старажытныя насельнікі Беларусі былі мірныя і працавітыя людзі. Яны не выходзілі за межы сваёй радзімы і не шукалі лёгкай здабычы. Яны не прагнулі чужога, але і свайго не аддавалі нікому

Жылі яны родамі, якія дзяліліся на сем'і. На чале рода стаяў роданачальнік, старэйшы ў родзе. З родаў, звязаных між сабою агульным паходжаннем і кроўным сваяцтвам, складалася племя, на чале якога стаяў князь. Цэнтрамі родаў і плямён былі ўмацаваныя паселішчы, звычайна на ўзвышаным беразе ракі, з драўлянымі будынкамі, абкружаныя моцнай і высокай сцяной з бярвенняў для абароны ад нападу ворагаў. Такія ўмацаваныя паселішчы называліся «гарадамі», ад слова «гарадзіць», «агараджваць». Будаваць умацаванне называлася — «ставіць горад». У выпадку небяспекі ўсе навакольныя жыхары шукалі прытулку і аховы за бярвеннымі сценамі свайго горада. Сюды-ж, у горад, яны збіраліся і на народны сход, удзельнікамі якога лічыліся ўсе дарослыя людзі.



*Гаршчок, знойдзены ў кургане.*

Сталай сувязі паміж асобнымі плямёнамі не было. Асноўнымі шляхамі зносін ва ўмовах лясной і бездарожнай краіны з'яўляліся рэкі. Нездарма ўсе буйныя паселішчы ўсходніх славян былі размешчаны па плыні шматлікіх рэк.

# Вясёлая піянерская сям'я

Зычны гук горна перапыніў шумны і вясёлы гоман рэбят. У цішыні пачуліся словы, спачатку нясмела, але потым усё больш упэўнена і цвёрда:

Пад ветрам сцягі пеняцца,
Цапочкай дружнай цягнецца
Жывая піянерская
Вясёлая сям'я!
Дружней, рэбяты-ленінцы,
Смялей, рэбяты-сталінцы,—
На вас глядзіць, любуецца
Радзіма ўся мая!

Гэта Валя Бабылёва дэкламуе верш Лебедзева-Кумача.

Да стала падыходзіць выдатніца вучобы Рая Кацовіч. Яркай чырванню на грудзях у яе зіхаціць піонерскі гальштук. Яна гаворыць:

— Усе піонеры носяць чырвоны гальштук. Яны даражаць ім, таму што чырвоны гальштук ёсць частка Чырвонага сцяга, за які змагаліся і пралівалі кроў нашы бацькі і дзяды.

Думку яе дапаўняе Дзіна Цымер:

— Тры канцы піонерскага гальштука паказваюць на сувязь трох бальшэвіцкіх пакаленняў: комуністаў, комсамольцаў і піонераў...

Так пачаўся цікавы збор 7 атрада 12 сярэдняй школы горада Мінска на тэму «Чырвоны гальштук». Тут многа было прыведзена прыкладаў, як піонеры захоўваюць чэсць чырвонага гальштука, рыхтуюцца прадаўжаць вялікую справу Леніна—Сталіна. Вось Маня Галахваева з гомельшчыны. Яна зберагла ад немцаў чырвоны піонерскі сцяг; юны партызан Максім Папкоў пусціў пад адкос нямецкі эшалон з ваеннай тэхнікай, за што ўзнагароджан ордэнам Чырвонай Звязды. Ордэнам Чырвонага сцяга ўзнагароджан кіеўскі піонер Косця Краўчук за тое, што зберог баявыя чырвоныя сцягі ад нямецкіх захопнікаў.

З захапленнем дзеці слухалі хвалюючае апавяданне аб гісторыі чырвонага гальштука загінуўшай ад бамбардыроўкі піонеркі. Гэты гальштук з Ленінграда трапіў на фронт байцам роты капітана Токарэва. З рук у рукі байцоў пераходзіў чырвоны піонерскі гальштук і заклікаў адважных воінаў на помсту нямецкім катам за пакуты нашых дзяцей.

Час-ад-часу цікавыя апавяданні змяняліся вясёлымі песнямі і гульнямі.

Тое, аб чым тут гаварылася, запомніцца на ўсё жыццё.

Кожны піонер на зборы звяна мае свой занятак. Вялікую дапамогу атраду аказвае мастацкі кіраўнік школы Галіна Якаўлеўна Папова.

Піонеры гэтага атрада не толькі добра вучацца,—гэта лепшыя цімураўцы ў школе. Штаб атрада (начальнік штаба Зіна Варановіч) умела арганізуе работу.



Падпалкоўнік Шараў уручае піонерскі сцяг піонерскай дружыне 12 сярэдняй школы г. Мінска.

У час выбарчай кампаніі ў Вярхоўны Совет СССР атрад арганізаваў некалькі вечароў самадзейнасці для выбаршчыкаў, паведамляў іх аб сходах, абсталяваў кватэру для дзяцей, пазбіраў цацак. Акрамя гэтага, піонеры займаюцца ў гуртках, вывучаюць песні, танцы, вучацца дэкламаваць.

Перад кожным зборам звеннявыя здаюць рапарт начальніку штаба аб тым, што зроблена ў кожным звяне. І вельмі радуюцца піонеры таго звяна, якое атрымае падзяку ад старшай піонерважатай Тамары Сушковай.

— Да наступнага разу мы зробім яшчэ больш, — даюць яны абяцанне.

**С. ТУРЧЫНОВІЧ.**



# БЕЛАРУЧКА

*Эдзі АГНЯЦВЕТ*

*Мал. Волкава*



У суседняй хаце
Ёсць дзяўчынка Каця.
Можа ты яе не ведаў?
Вунь яна крычыць на дзеда:

— Дай скакалку, мячык!
—Ты пасля паскачаш,
А цяпер памый талеркі,
Падбяры свае паперкі.

—Што ты,—кажа Каця,—
Гэта зробіць маці!

Мама майстар на заводзе,
Мама ўвечары прыходзіць,
Падсабіць ёй трошкі трэба:
—Прынясі, Кацюша, хлеба.

—Мама, я стамілася,
Я ўвесь дзень вучылася...

І кладзецца ля канапы,
Шэрай кошцы гладзіць лапы.
—Бачыш, плача мурка наша,
Мама, дай ёй маннай кашы.

Маці ўсё падносіць,—
То-ж дачушка просіць.

Добрая дачушка,
Ну і весялушка!

Ёй навошта знацца з працай,
Нат' не ўмее апранацца,
Грае з лялькаю прыгожай,
А заслаць не можа ложак.

Недарма смяюцца дзеці,
Нават самы меншы—Пеця,
Кажа:
—ў гэтай хаце
Беларучка Каця.



# КАРЫСНЫЯ НАСЯКОМЫЯ

## АФЕЛІНУС

Ёсць сотні тысяч розных відаў насякомых. Але не ўсе яны вывучаны. Апрача таго, і зараз вучоныя знаходзяць усё новыя і новыя віды насякомых.

Большасць насякомых прыносяць шкоду чалавеку. Адны насякомыя знішчаюць пасевы і пладовыя дрэвы, другія пераносяць і пашыраюць заразныя хваробы.

Але ёсць шмат і карысных насякомых.

У Крыму на сады нападала крывяная тля. Яна бязлітасна высмоктвала сок з пладовых дрэў. Што ні рабілі, каб знішчыць тлю, нічога не выходзіла.

Тады прывезлі з Італіі маленькае насякомае— афелінуса. Афелінус хутка расплядзіўся і знішчыў крывяную тлю.



Афелінус.

## БОЖАЯ КАРОЎКА

Усе вы ведаеце невялікую кузурку, так званую божую кароўку. Вядома, што адна божая кароўка за дзень з'ядае да 300 штук тлі і яе лічынак.

У Каліфорніі (Амерыка) божых каровак збіраюць у мяшкі, а потым выпускаюць на агароды.



Божая кароўка.

## ТРЫХАГРАМА

У нас у Лошыцы (пад Мінскам) да вайны была спецыяльная лабараторыя, якая разводзіла карысных насякомых, так званых трыхаграм.

Гэта цікавае насякомае. Яно адкладвае яйкі ўнутр яек розных шкодных насякомых. Праз некалькі дзён з яек трыхаграмы выходзяць лічынкі. Яны выядаюць унутранасці яек шкодных насякомых.

Асабліва карысная трыхаграма для пладовых садоў. На кожнае дрэва выпускаецца да 4.000 штук гэтага насякомага. Яно ачышчае пладовае дрэва ад так званай пладажоркі.



Трыхаграма.

## ЦЭЛЕНОМУС

Ёсць вельмі шкоднае насякомае—клоп-чарапашка. Зімуе чарапашка звычайна пад апаўшымі лістамі ў парках і садах, а вясною ляціць на палі. Чарапашка псуе і лісце і зерне, яна прыносіць незлічоную шкоду сельскай гаспадарцы.

Чарапашак вельмі любяць куры. Прыходзіцца збіраць чароды курэй і выпускаць іх на палі, дзе плодзіцца чарапашка.

Але-ж куры—не насякомыя. Іх трэба дагля-даць. А ці няма насякомых, якія-б знішчалі чарапашак і не шкодзілі пасевам?

Знайшлі такое насякомае—з рода цэленомус. Яго размнажаюць у спецыяльных лабараторыях, а потым масамі выпускаюць у поле.

**А. МАРКАВЕЦ,**
кандыдат біялагічных навук.

# НАСЦЕЧКА

*Кузьма ЧОРНЫ*

*Мал. В. Ціхановіча*

*(Канец *)*

8

Гэта былі тыя самыя тры дзяўчаткі, пра якіх гаварылася ў пачатку гэтай апевесці. Гэта іх тады Насцін дзед бараніў ад Сержа Мілеўската. Яшчэ да таго здарэння яны раз ці два былі на кватэры ў сваёй школьнай падругі Насцечкі. А пасля таго, як Насцін дзед абараніў іх на вуліцы, яны адчулі да яе большую яшчэ прыхільнасць. І калі настаўніца сказала даведацца Насцечку, як яна жыве з сваім хворым дзедам, Рая, Фаня і Надзя пачалі вельмі часта прыходзіць да сваёй падругі.

Рая здавалася самай сталай з іх траіх. У яе былі дзве зусім яшчэ малыя сястрыцы, і адна з іх была слабата здароўя і даволі часта хварэла. Раінай маме было многа клопату і працы, і Рая ўсё памагала ёй. Рая ўжо ўмела зварыць які хочаш суп, умела добра засмажыць мяса і прыгатаваць усё, што трэба. Яна вельмі добра вышывала і не кепска шыла. Невядома, хто ад каго пераняў,—ці Рая ад Насцечкі ці Насцечка ад Раі, але Рая таксама, як Насцечка, мела прывычку часам запішчаць: «Ой, дзевачкі!» Апошнімі днямі Рая ганарылася тым, што яна сама сабе перашыла плацце. На твары яе было некалькі вяснушчатых крапінак, а валасы яе шчыльна ляжалі на галаве пад грабянцом. Яна была вельмі падобна да Насцечкі—і з голасу, і з постаці, і з усяго выгляду, і з сваёй сталасці.

Фаня не была падобна да Раі і Насцечкі. Перш за ўсё, яна была на год за іх маладзейшая і меншая ростам. Валасы на яе галаве густа кучаравіліся, гаварыла яна павольна, быццам спявала. І ўжо ніяк ад яе нельга было пачуць якога-небудзь раптоўнага выкрыку: «Ой, дзевачкі!» Перад тым, як сказаць слова, яна падумае, і тады праспявае ўжо тое, што хоча сказаць.

А Надзя была вялікая рагатуха. Яна вельмі любіла рагатаць. Раптам скажа:

— Я піла ваду і аблілася.

І зарагоча. А то часам здарыцца ёй паслізнуцца на лёдзе і ўпасці, а, вядома, калі толькі што ўпадзеш, то ў першы момант не баліць. Забаліць крыху пасля, калі мопна даўся. Дык у такіх выпадках Надзя раней зарагоча, а тады ўжо заплача.

Вось гэтыя тры дзяўчынкі і ўвайшлі цяпер у Насціну кватэру. Рая наступіла нагой на рассыпаны гарох і ледзве не ўпала.

— Ой, дзевачкі! — крыкнула яна.

А Надзя вядома што зрабіла пасля гэтага,— яна адразу зарагатала. Затое Фаня падумала і паважна праспявала:

— Трэба гэты гарох пазбіраць, а то тут можна ўпасці.

— Ой, дзевачкі, давайце збіраць гарох! — крыкнула Рая, і яны ўсе ўчатырох прыгнуліся к падлозе.



*Дзяўчаткі пачалі танцаваць.*

*) Гл. № 1 за 1946 г.

— Як добра, што вы прышлі, — сказала Насцечка, — а то мне нудна было чакаць поезда.

— Якога поезда? — запытала Надзя.

— Мая мама прыязджае. І ведаеце, што? Яна ўжо раней пісала, што мае патэфон. Яна, значыцца, яго сёння прывязе.

— А якія пласцінкі? — заспявала Фаня.

— А якія пласцінкі-і-і, — перадражніла яе Рая. — Адкуль-жа Насця можа ведаць?

— От каб была лезгінка,—зарагатала Надзя.

— Ой, дзевачкі!—крыкнула Рая.—Патанцуем лезгінку.

— А музыка?—паважна сказала Насцечка.

— А мы самі сабе выспеўваць будзем.

— Так вы патоміцеся, гэта цяжка так,— сказаў дзед.

Але хто яго там слухаў, калі справа ішла аб лезгінцы. Дзяўчаткі пачалі танцаваць. Дзед глядзеў на іх, і слаўная ўсмешка запоўніла яго твар. Усё было на свеце добра. Ён папраўвіўся, Насцечка здаровая, вясёлая і вучыцца добра, а зараз будзе тут дарагі чалавек—Насціна мама. Дзед пачаў біць у далоні і ў такт танца прыгаварваў:

— Гоп-гоп, Насцечка, гоп-гоп, Надзечка!

Адчыніліся дзверы, і ў пакой увайшоў Сержаў бацька, а за ім Серж. Яны стукалі з карыдора ў дзверы, але іх не чулі за танцам, і яны адчынілі самі.

— Ой, дзевачкі!—прапішчалі ў адзін голас Насця і Рая.

Танец умомант спыніўся, і дзяўчаткі ўставіліся вачыма ў Сержа. Запанавала маўчанне. Але тут радасным і ўзбуджаным голасам абазваўся дзед:

— Нарэшце, я цябе дачакаўся. Чаму-ж ты дагэтуль не прыходзіў? А я чакаў, чакаў...

Дзед і Сержаў бацька абняліся і пацалаваліся. Слёзы радасці сталі ў дзедавых вачах.

— Я расказаў свайму Сяргею пра тое колішняе здарэнне з бандытамі і пра вас, — гаварыў Сержаў бацька. — І ён так палюбіў вас і аж плакаў, так прасіў, каб я яго ўзяў з сабою да вас... Сяргей, хадзі сюды, трэба-ж вам пазнаёміцца.

Серж і стары Закрэўскі ступілі адзін да аднато крок і глянулі адзін на аднаго. Датэтуль яны яшчэ не бачыліся. Закрэўскі быў заняты вітаннем з Сержавым бацькам, а Серж спадылба пазіраў на знаёмых яму дзяўчатак і ў душы сваёй праклінаў тую часіну, калі ён сюды прышоў. Цяпер Сержавы вочы спаткаліся з вачыма старога Закрэўскага. І—які жах!—Замест такога чалавека, якога ён ужо любіў пасля



*Дзед і Сержаў бацька абняліся.*

бацькавых расказаў, Серж убачыў перад сабой ненавіднага яму старога, якому ён так многа зрабіў зла. Абое яны, і Закрэўскі і Серж, збянтэжыліся. Серж густа пачырванеў і апусціў вочы ў падлогу, а ў Закрэўскага задрыжэлі губы і пачырванелі вочы, але ён адразу-ж справіўся з сабой і, каб не дапусціць да якіх-бы там ні было непрыемнасцей, сказаў:

— Ну, от і добра, што мы пазнаёміліся.

— Ніколі з ім так не было, каб ён быў такі нясмелы, што спускаў вочы ў падлогу, — сказаў пра свайго сына Сержаў бацька.—Гэта мусіць, ён пасля таго, што пачуў пра вас з майго расказа... Ну, добра, Серж, ідзі гуляй з дзяўчаткамі.

— А мы тут сабе пасядзім і пагаворым,— сказаў Закрэўскі. — А ведаеш, хто да нас сёння прыязджае...

І ён расказаў, каго яны чакаюць.

— Вельмі добра, — сказаў Сержаў бацька,— Я даўно яе не бачыў, будзе прыемнае і радаснае спатканне. Мы-ж бачыліся яшчэ тады даўно, калі цяжка жылося. Як я рад, што мы ўсе будзем жыць у адным горадзе... Серж, гуляй з дзецьмі, чаго-ж ты стаіш, як акамянелы?

Але ў тым была і бяда, што Серж не мог з чыстай душой падыйсці да дзяўчатак і зірнуць ім смела, па-таварыску, па-сяброўску ў вочы. Але ўсё-ж гэтыя прыкрасці былі нішто ў параўнанні з тым, што рабілася ў яго душы з таго моманту, калі ён убачыў, да каго ён з бацькам прышоў і каго ён так моцна скрыўдзіў. Стары чалавек здаваўся яму цяпер нейкім магутным

веліканам, перад якім ён, з усімі сваімі ганарыстымі капрызамі, нічога не варт. Ён так сябе адчуваў, быццам лепш было-б яму ў гэтыя мінуты праваліцца скрозь зямлю.

— Насцечка, — сказаў дзед, — я адзін пайду на вакзал, а вы тут усе сядзіце і чакайце. Тры мінуты ходу да вакзала і тры мінуты назад. А поезд вось павінен ужо прысці.

Закрэўскі адзеў паліто і шпарка вышаў, Сержаў бацька астаўся адзін з дзецьмі. Насцечка захвалявалася, яна раз-по-разу заглядвала ў акно. Жартачкі! Зараз будзе тут яе мама, якой яна ўжо колькі часу не бачыла. Дзяўчаткі абкружылі Насцечку і защабяталі, Серж пачаў шаптаць бацьку на вуха: «Хадзем дадому».— але бацька і слухаць пра гэта не хацеў. Як-жа ён мог пайсці дадому ў гэты момант, калі зараз ён убачыць свайго блізкага чалавека,—Насціну маму, з сям'ёй якой, калі яшчэ жыў быў Насцін бацька, ён так дружыў. Многа год яны ўжо не бачыліся. І ён радасна чакаў гэтага спатканця. І Сержа ён таксама нікуды адпусціць, ён пахваліцца блізкім людзям, які ў яго ўжо сын. У чаканні прайшло мінут дваццаць. І вось на двары каля дома пачулася гаворка, і Насцечка праз акно ўбачыла, як мама яе і дзед увайшлі ў сені. А іх даганяла нейкая жанчына і следам за імі таксама ўвайшла ў сені. Насцечка саскочыла з крэсла, на якім стаяла на каленях, каб лепш глядзець у акно, і падбегла да дзвярэй. З усяго размаху яна стукнула рукамі ў дзверы і адчыніла іх. Мама, захваляваўшыся, ледзь упіхнула ў дзверы чамадан і кінулася да сваё Насцечкі.


*Насцечка павісла на мамінай шыі.*

— Мама!—закрычала Насцечка і павісла на мамінай шыі.

Рая, Фаня і Надзя стаялі каля стала, і на тварыках іх расплылася чыстая, як усход сонца ў ціхі веснавы дзень, усмешка шчаслівага маленства.

Але дзверы ў сенцы нейкі час асталіся адчыненыя, і незнаёмая жанчына гаварыла там дзеду:

— Гэта тут жыве стары чалавек з сваёй унучкай, які хварэў праз тое, што ўпаў у ваду?

— Тут, гэта я, — чула Насцечка голас свайго дзеда. — А чаму вы пытаецеся?

— Вас кінуў у ваду малы хуліган, гэта мой сын, я прышла папрасіць у вас прабачэння.

—Э, што там, я паправіўся ўжо.— збянтэжыўся дзед.

— І вашай унучцы мой гэты хуліган.....

Жанчына не скончыла, змоўкла, пачырванела тварам і адразу пасля гэтага збялела. Закрэўскі таксама глядзеў на яе, не могучы ад здзіўлення прагаварыць і слова. Нешта ён марматаў сабе пад нос і шпарка ўвайшоў у кватэру, пакінуўшы за сабой адчыненыя дзверы. Жанчына не смела ўвайсці і стаяла ў сенцах. Закрэўскі паставіў на падлогу патэфон, які ён нёс з вакзала, і павярнуўся да дзвярэй, ужо стараючыся пасупакайнець:

— Ну, заходзь-жа... (Канцы губ яго ўздрыганулісь). А тут і Сяргей твой і... Ну, заходзь-жа, колькі год я цябе не бачыў... (Твар яго засвяціўся радасцю). — Ты-ж, як дачка мне... Ну, чаго там... А памятаеш, як ты выратавала нас ад бандытаў?..

Жанчына ціха плакала, Насцін дзед пагладзіў яе па галаве і пацалаваў у лоб. Серж стаяў, як акамянелы. Сержаў бацька ўстаў з крэсла, так шпарка, быццам-бы крэсла гарэла агнём. Ён стаяў, апусціўшы рукі і не ведаючы, дзе дзецца.

— Дык вось каго гэта ты так пакрыўдзіў...— павярнуўся бацька да Сержа і змоўк, а пасля цішэй сказаў: — Гэта я яго пакрыўдзіў, гэта я сам вінават...

Першая напружаная мінута прайшла. Насцечка стаяла на крэсле, абняўшыся з мамай так, што, здавалася, ніяк не адарвеш адну ад другой.

— А, мама... Ой, дзевачкі, хадзіце сюды!— крыкнула Насцечка. — Мама, гэта мае падругі.

— О, у іх вялікае сяброўства, — сказаў дзед. — Такая ў іх дружба, што толькі цешыцца можна.

— Добры дзень вам, дзяўчаткі, — сказала мама. — Хоць я вас і першы раз бачу, але ўжо люблю вас за тое, што вы дружыце з маёй Насцечкай.

— О, Насцечка маладзец, — сказаў дзед. — Яна і вучыцца, і весяліцца, і чытае, і гуляе, і такая сталая, і такая гаспадыня была, калі... (Ён хацеў сказаць «калі я быў хворы», але падумаў і сказаў «калі трэба было»).

— Ну, цяпер я ўжо тут гаспадыня,—сказала Насціна мама,—калі ласка ўсе за стол. Добра, што вы тут не забывалі іх,—гаварыла яна да Сержавага бацькі і маці.—I вам, дзяўчаткі, дзякую за дружбу з Насцечкай. Дружба—вялікая справа. Без дружбы чалавеку цяжка жыць, чуеце, дзяўчаткі? Дружба робіць вялікія справы. I ў няшчасці, і ў радасці без дружбы чалавеку нельга быць. Шануйце, дзеці, дружбу, гэта самае дарагое і важнае, што ёсць у чалавека. Вырастайце вялікія і беражыце праз усё жыццё дружбу. I ведайце—асабліва моцная павінна быць тая дружба, што ўстанаўліваецца ў маленстве і ў маладыя гады.

Серж раптам зарыдаў і кінуўся да дзвярэй. Дзеці кінуліся да акна і ўбачылі, што ён шпарка пабег завулкам. Маці яго акінула вачыма ўсіх і ў позірку яе гэтулькі было пакут за сваё дзіця.

— Што гэта за хлопчык?—сказала Насціна мама.—Я і не заўважыла яго адразу.

— Гэта... гэта... мой. Я пасля раскажу,— ціха прагаварыла Сержава маці.

— Ён цяпер пабяжыць дадому,—сказаў Насцін дзед.—Гэта і добра, няхай пабудзе сам з сабой, паспакайнее.

Ён больш такім не будзе, — сказаў Сержаў бацька моцна і рашуча, і тон яго голаса настроіў усіх на весялейшы лад.

Усе сядзелі за сталом, на які Насціна мама ўсё больш і больш ставіла ўсялякіх пачастункаў. Сержава мама пачала памагаць ёй. Надзя выскачыла з-за стала і пачала пераглядаць патэфонныя пласцінкі.

— Лезгінка!—закрычала яна раптам.

— Ой, дзевачкі!—крыкнула Рая.

А Насцечка зусім страціла сваю ранейшую гаспадыньскую сталасць. Ёй хацелася пасціцца і быць каля мамы. I калі мама падыходзіла да стала, Насцечка прыхілялася да яе галавой. Нарэшце, мама села каля сваёй Насцечкі. Праз поўгадзіны, пасля першай шклянкі чаю, паміж вялікімі за сталом ішла жвавая і вясёлая гутарка. А дзеці завялі патэфон і пачалі танцаваць асецінскую лезгінку. Дзед не вытрымаў. Ён адышоўся да сцяны, глядзеў на дзяцей, у такт танца ляскаў у далоні і прыгаварваў:

— Гоп-гоп, Насцечка! Гоп-гоп, Раечка! Гоп-гоп, Фанечка! Гоп-гоп, Надзечка!

I на твары яго ўвесь час ляжала пячаць радасці.






А. ГАЙДАР

Мал. Л. Бойкі

Ноччу чырвонаармеец прынёс позву. А на світанні, калі Алік яшчэ спаў, бацька моцна пацалаваў яго і пайшоў на вайну ў паход.

Раніцою Алік раззлаваўся, чаму яго не разбудзілі, і адразу-ж заявіў, што ён хоча ісці ў паход таксама. Ён, напэўна, закрычаў-бы, заплакаў-бы, але зусім нечакана маці яму ў паход ісці дазволіла.

І вось, для таго, каб набрацца перад дарогай сілы, Алік з'еў поўную талерку кашы, выпіў малака. А потым яны з мамаю селі рыхтаваць паходнае снаражэнне. Маці шыла яму штаны, а ён, седзячы на падлозе, выстругваў сабе з дошкі шаблю. І тут-жа за работаю развучвалі яны паходныя маршы, бо з такой песняй, як «Радзілася ў лесе ёлачка», нікуды далёка не дойдзеш: і матыў не той, і словы не такія. Увогуле, гэтая мелодыя для бою зусім не падыходзячая.

Але вось прышоў час маці ісці дзяжурыць на працу, і справы свае яны адклалі на заўтра.

І так дзень за днём рыхтавалі Аліка ў далёкі шлях. Шылі штаны, кашулі, сцягі, вязалі цёплыя панчохі, рукавіцы. Адных драўляных шабляў побач з ружжом вісела ўжо сем штук. А гэты запас патрэбен, бо ў гарачым баі ў звонкай шаблі жыццё яшчэ карацейшае, чым у конніка.

І даўно, пэўна, можна было-б ісці Аліку ў паход, але тут надышла лютая зіма. А пры такім марозе, вядома, нядоўга схапіць прастуду, і Алік цярпліва чакаў цёплага сонца.

Але вось і вярнулася сонца. Пачарнеў талы снег. І толькі-б, толькі збірацца, як зазвінеў званок. І цяжка ступаючы, у кватэру зайшоў, вярнуўшыся з паходу, бацька. Твар яго быў цёмны, абветраны, і губы патрэсканыя, але шэрыя вочы пазіралі вельмі весела.

Ён, вядома, абняў маці, і яна павіншавала яго з перамогай. Ён, вядома, моцна пацалаваў сына. Потым агледзеў усё Алікава паходнае снаражэнне. І, усміхнуўшыся, загадаў сыну: усю гэтую зброю і амуніцыю трымаць у поўным парадку.






*(Народная казка)*

*Апрацавала В. ЛУЦЭВІЧ* *Мал. А. Волкава*

Жылі-былі дзядулька, бабулька ды ўнучка Аленка. І быў у іх агарод.

А ў агародзе тым і капуста, і бурачкі, і моркаўка, нават і рэпка жоўтая расла.

Захацелася дзеду рэпкі. Вось і пайшоў ён у агарод. А ў агародзе горача-горача, а ў агародзе ціха-ціха. Толькі пчолкі жужжаць ды камарыкі пішчаць.

Прайшоў дзед градку з капустай, прайшоў градку з бурачкамі, прайшоў градку з моркаўкай... А вось і рэпка.

Толькі нахіліўся дзед рэпку выцягнуць, а пад кустом хтосьці: „Ппы-ы-хх! ппы-ы-хх! Ці не дзедка гэта? Ды ці не па рэпку ён?“

Спужаўся дзед ды як пабяжыць— каля моркаўкі, каля бурачкоў, каля капусты. Ледзь-ледзь дахаты дабег, на лаўку сеў, аддыхацца не можа.

—Ну, што, дзедка прынёс рэпку?

—Ох, бабка, там пад кустом хтосьці страшны сядзіць і пыхкае. Я ледзь адтуль уцёк.

—Ды кінь ты, дзедка! Вось я сама пайду, дык напэўна рэпку прынясу.

І пайшла бабка ў агарод. А ў агародзе горача-горача, а ў агародзе ціха-ціха. Толькі пчолкі жужжаць ды камарыкі пішчаць.

Прайшла бабка градку з капустай, прайшла градку з бурачкамі,



прайшла градку з моркаўкай... А вось і рэпка.

Толькі нахілілася бабка рэпку цягнуць, а пад кустом хтосьці: „Ппы-ы-хх! ппы-ы-хх!.. Ці не бабка гэта? Ды ці не па рэпку прышла?“ Спужалася бабка ды хутчэй бегчы... каля моркаўкі, каля бурачкоў, каля капусты. Ледзь-ледзь дахаты дабралася. На лаўку села, аддыхацца не можа.

—Ой, дзедка, праўду ты казаў: там пад кустом хтосьці страшны сядзіць і пыхкае. Ледзь я адтуль уцякла.

Пайшла Аленка ў агарод. А ў агародзе горача горача, а ў агародзе ціха-ціха. Толькі пчолкі жужжаць ды камарыкі пішчаць.

Прабегла Аленка градку з капустай, прабегла градку з бурачкамі, прабегла градку з моркаўкай. А вось і рэпка.

Толькі нахілілася Аленка рэпку цягнуць, а пад кусцікам хтосьці: „Ппы-ы-хх! ппы-ы-хх!. Ды ці не Аленка гэта? Ды ці не па рэпку прышла?“

Засмяялася Аленка ды крычыць звонкім галаском, нібы званочкам:

—Так, так! Гэта я, Аленка! Бабульцы, дзядульцы па рэпку прышла...

А наградцы нешта зноў як запыхкае: „Ппы-ы-хх!“ Нахілілася Аленка над градкай—глядзіць туды, глядзіць сюды. І ўбачыла: ляжыць нейкі калючы клубочак ды пыхкае: „Пппы-ы-хх! ппы-ы-хх!“ Засмяялася Аленка ды кажа:

—Ах ты, вожык, ах ты калючы, гэта ты дзядульку ды бабульку напужаў, гэта ты іх ад рэпкі прагнаў?

А вожык выцягнуў свой носік ды зноў: „Пппы-хх! ппы-ы-хх!“

Пацягнула Аленка рэпку раз, пацягнула два, пацягнула тры,— рэпка так і выскачыла з зямлі. Ды якая! Вялікая ды круглая, жоўтая ды салодкая.

Узяла Аленка рэпку ў рукі, узяла вожыка ў фартушок і пабегла дадому. Каля моркаўкі, каля бурачкоў, каля капусты, мігам дахаты дабегла.

Сустракае Аленку дзедка, сустракае Аленку бабка—пытаюцца:

—А рэпку ты прынесла?

—Вось вам, дзядулька, бабулька, і рэпка.

Усцешылася бабка, усцешыўся дзедка. Ну і ўнучка, ну і Аленка!

—А як-жа—пых? Не баялася ты яго?

Расхіліла Аленка свой фартушок ды і кажа: „А вось вам і пых!“

Смяецца дзедка, смяецца бабка. Ну і малайчына наша Аленка, ну і смелая ўнучка!






*Мал. Ф. Круглянскага*

П. ПРЫХОДЗЬКА

Вёска спала.
Над зямлёю
Знікла цемень ночы.
Пеўні зноў перад зарою
Заспявалі тройчы.

Ку-ка-рэку!—спаць даволі,
Уставайце, людзі.

Сонца ўстане, і ў полі
Шмат вам працы будзе.
Ку-ка-рэку! Сонца ўстала,
Ходзіць над палямі.

Пеўні галасна спявалі
Ўсімі галасамі.

Ку-ка-рэку!—хлопнуў крыллем
Маладзенькі пеўнік.
Пра яго зусім забылі
Ўсе старыя пеўні.

Не аброс яшчэ ён пер'ем,
Дый хваста не мае.
І ніхто-б з іх не паверыў,
Што пеўнік спявае.

---

## ЦІ ПРАЎ МІША?

Раніцою я збіраўся ў школу. Склаў у сумку падручнікі і сшыткі і пачаў апранацца. Раптам адчыняюцца дзверы і забягае ў пакой мой аднакласнік Міша Скрыган.

— Ты яшчэ дома! — радасна крыкнуў ён, убачыўшы мяне.—Я так да цябе спяшаўся! Выруч мяне, Паўлік. Я не рашыў задачак—дай перапісаць. Я іх хуценька перапішу, так што ў школу мы не спознімся.

— А чаму-ж ты іх не рашыў?—запытаўся я.

— На санках учора катаўся!

Што мне было рабіць? З Мішам Скрыганом мы даўно сябравалі. Вясною разам хадзілі ў поле ці ў лес, зімой—каталіся на санках і лыжах. Не раз прапанаваў я Мішу разам рыхтавацца да ўрокаў, але на гэтыя мае прапановы ён не звяртаў ніякай увагі. Сам-жа ён дома рэдка браўся за кнігу і вельмі часта забягаў раніцою да мяне і прасіў майго сшытка, каб перапісаць заданне. Мне не хацелася яго крыўдзіць. Я даваў яму сшытак, і ён садзіўся за стол і перапісваў. Потым разам мы ішлі ў школу.

Але хутка я зразумеў, што такая дапамога не ідзе на карысць Мішу. На пытанні настаўнікаў ён не ведаў, што адказваць.

У той дзень я ўпершыню сказаў, што не дам свайго сшытка.

Міша Скрыган пакрыўдзіўся за гэта на мяне. Ён нават не захацеў ісці разам са мною ў школу.

З таго часу мінуў ужо месяц. Міша пачаў вучыцца лепш, але да мяне ніколі не заходзіць. У класе ён не размаўляе са мной, бо лічыць, што я зрабіў не па-таварыску, не даўшы яму перапісаць задачы.

Рэбяты, адкажыце мне праз часопіс «Бярозка»: ці праў Міша?

г. Баранавічы.

Павел ДУБОВІК.

# ЗРАБІ САМ

## 1. ГЕНЕРАТАР І ЭЛЕКТРАМАТОР

Вазьміце магнітную падкову, компас, два цвікі, дзве шпулькі і тонкі ізаляваны дрот. Будзем рабіць электрычны генератар і электраматор. На шпулькі наматаем дрот—чым больш віткоў, тым лепш. Шпулькі надзенем на цвікі.

Адну шпульку пакладзем на канцы стала і цвік яе прылепім да магніта. Другую шпульку пакладзем на другі канец стала і да цвіка яе прыставім компас. Абедзве шпулькі злучым дроцікамі. Цяпер прытрымаем шпульку рукой і адарвем магніт ад цвіка—і зараз-жа на другім канцы стала ў компасе пачне рухацца стрэлка.

Чаму яна рухаецца?

Калі мы адарвалі магніт ад шпулькі, у дроце з'явіўся электрычны ток. Шпулька як-бы ператварылася ў электрычны генератар. Ток прайшоў па дроце на другі канец стала, прабег па абмотцы шпулькі і намагніціў жалезны цвік. Цвік прыцягнуў стрэлку компаса, і яна павярнулася. Шпулька як-бы ператварылася ў электраматор.

Цяпер можна гуляць у тэлеграф: пасылаць па дроце тэлеграмы, адрываючы магніт, і прымаць іх на другім канцы стала, сочачы за рухам стрэлкі.



## 2. РАКЕТА Ў ТАЛЕРЦЫ

Што такое ракета? Гэта, адначасова, і гармата і снарад.

Пры стрэле сіла аддачы штурхае гармату назад. А калі-б гармата страляла, як кулямёт, і не была ўмацавана, дык яна кацілася-б назад з вялікай сілай.



Па такому прынцыпу пабудавана ракета. У яе хвасце няспынна ўзрываюцца зарады, і яна ляціць пад уздзеяннем сілы аддачы, пакідаючы за сабою вогненны хвост.

Кожны з вас можа зрабіць забаўную мадэль ракеты.

Выражце з паперы падкоўку і пусціце плаваць у талерку з вадой. Калі капнуць у сярэдзіну падкоўкі кроплю мыльнай пены, дык падкоўка закоўзаецца па паверхні, як глісер. Мыльныя часцінкі будуць імкліва расцякацца па паверхні вады, і сіла аддачы пагоніць падкоўку наперад.

Падкоўка плавае ў талерцы, а не лётае ў паветры, за ёй не сцелецца вогненны хвост, але ўсё-ж такі гэта таксама ракета, бо рухаецца яна сілай аддачы.

# ЧАМУ МЫ ТАК ГАВОРЫМ

**Трамвай.** У 1801 годзе ў Англіі, між Крайтонам і Вудсвортам, была адкрыта першая конначыгуначная дарога. Гэтую дарогу пабудаваў Утрам. Таму яе назвалі Утрамуэй, або трамуэй—гэта значыць дарога Утрама («уэй»—па-англійску «дарога»). Адсюль і паходзіць слова «трамвай», якое захавалася і да нашага часу.

**Рубель.** У старажытнай Русі мерай кошту служылі кавалкі срэбра. Калі што-небудзь прадавалі і рэч каштавала менш, чым каштаваў гэты срэбны кавалак, дык ад яго адсякалі такую частку, якая адпавядала кошту рэчы. Гэтыя кавалкі срэбра і называліся «рублямі» ад слова «рубіць».

## ГЕАГРАФІЧНЫЯ ЗАДАЧЫ



Складзіце з трыкутнікаў карту Зямлі. Якую форму яна будзе мець?



Паспрабуйце разгадаць: якія гэта астравы?




Назавіце намаляваныя тут каналы, рэкі, моры і парты.

**В. Дземенцьеў**

## АРЫФМЕТЫЧНЫЯ ЗАДАЧЫ

### ЕГІПЕЦКАЯ ЗАДАЧА

У Пушкінскім музеі ў Маскве захоўваецца старажытны егіпецкі папірус, расшыфраваны рускім вучоным прафесарам Тураевым. У папірусе аказалася многа задач. Вось адна з іх:

Прыгнаў пастух 70 быкоў. Запыталіся ў яго шчотчыкі: «Колькі быкоў налічвае ўсё тваё стада?» Пастух адказаў: «Я прыгнаў вам дзве трэці ад трэці ўсіх сваіх быкоў».

Колькі-ж быкоў меў пастух?

### ЗАДАЧА ПІФАГОРА

Вось адна старажытная задача з грэчаскага зборніка.

—Скажы мне, славуты Піфагор, колькі вучняў наведвае тваю школу і слухае твае гутаркі?

—Палова вывучае матэматыку, чвэртка—музыку, сёмая частка маўчыць і, апрача гэтага, ёсць яшчэ тры жанчыны,—адказаў Піфагор.

### ЦІКАВАЯ ПАМЫЛКА

Настаўнік напісаў на дошцы лік і прапанаваў вучню падзяліць яго на 4 і да атрыманага дадаць 15. Замест гэтага вучань, па разгубленасці, памножыў дадзены яму лік на 4, а ад выніка адняў 15. Не гледзячы на гэтую памылку, вучань атрымаў правільны адказ.

Скажыце, які лік напісаў на дошцы настаўнік?

---

### АДКАЗЫ НА РЭБУСЫ І КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫЯ У № 1

**Геаграфічныя рэбусы:** Юкон, Дунай, Прыпяць, Магілёў, Куба.

**Красворд:**

Па вертыкалі: 1. Дом. 2. Ружа. 3. Ткач. 5. Картон. 6. Указ. 9. Іл. 11. Дунай. 13. Арка. 18. Асілак. 19. Сом. 20. Оля. 23. Атака. 25. Тэма. 26. Ліса. 27. Краб 29. Аса.

Па гарызанталі: 2. Рот. 4. Сумка. 7. Шапка. 8. Чолка. 10. Ода. 12. Балет. 14. За. 16. Сена. 17. Кран. 19. Стой. 21. Кіт. 22. Мая. 24. Столік. 28. Ка 30. Рэха. 31. Маска. 32. Каса. 33. Бяда.



# Шахматы

*Аддзел вядзе С. ТУРЧЫНОВІЧ*

## ЯК Б'ЮЦЬ ФІГУРЫ

Мэтай шахматнай ігры з'яўляецца знішчэнне варожага караля. Той, хто гэтага дасягне першым, лічыцца выйграўшым партыю. Зразумела, што каб атрымаць перамогу, спачатку трэба «знішчыць» (часткова або поўнасцю) варожыя фігуры.

Мы ўжо ведаем, як ходзяць фігуры. Пры гэтым трэба памятаць два правілы: 1. Ні адна фігура не ходзіць на поле, занятае сваёй фігурай. 2. Конь—адзіная фігура, якая можа пераскокваць цераз свае і варожыя фігуры.

Калі фігурай ходзяць на поле, занятае чужой фігурай, дык апошняя «збіваецца»—здымаецца з дошкі.

Здымаць чужую фігуру не абавязкова, калі ёсць другі выгаднейшы ход. Усе фігуры, за выключэннем пешак, б'юць так, як ходзяць.

Вось, напрыклад, такое становішча (мал. 1). Кароль можа пабіць ладдзю на c4 або слана d2. Ладдзю можа таксама пабіць белы конь і ферзь. Кожны з праціўнікаў, калі хоча пабіць чужую фігуру, здымае яе з дошкі, а на гэта месца ставіць сваю.

Пешка-ж б'е інакш, чым ходзіць. Яна б'е наўскасяк у напрамку свайго руху. Так, напрыклад, пешка можа пабіць каня і ладдзю (мал. 2), але не можа рухацца на поле c6, бо яно занята варожай фігурай. Не можа пешка біць і назад—варожую пешку на d4 (мал. 2).

На мал. 3 мы бачым, што белая пешка дасягнула 5 гарызанталі. З гэтага становішча яна магла-б пабіць варожую пешку на a6 і c6,



калі-б яна там была. Як вядома, чорная пешка можа зрабіць ход a7—a5 і праскочыць поле a6. У гэтым выпадку белая пешка мае права яе пабіць, гэта значыць стаць на поле a6 і зняць з дошкі варожую пешку. Але гэта можна зрабіць толькі адразу. Праз некалькі ходаў гэтая магчымасць адпадае.

Знятыя фігуры на пісьме абазначаюцца двухкроп'ем. Напрыклад, на мал. 1 Крd3 б'е Лc4. Запісваецца гэта так: Кр d3:c4.

Трэба таксама памятаць, што кароль не мае права біць варожую фігуру, калі сам пры гэтым становіцца пад бой.

Калі-ж каралю аб'яўлен «шах» (пагроза пабіць) і ніякі ход не дае магчымасці пазбегнуць гэтай пагрозы, праціўніку аб'яўляецца мат—канец ігры.

Цяпер, ведаючы як ходзяць і б'юць фігуры, можна пачынаць ігру. Іграючы, запісвайце свае партыі і прысылайце нам. Лепшыя партыі мы будзем змяшчаць у часопісу.

## № 1. ШАШАЧНАЯ КАНЦОЎКА.



Белыя пачынаюць і выйграюць.

Знайдзіце гэты цікавы выйгрыш. Прозвішчы тых, хто правільна развяжа, будуць змешчаны ў часопісу.




Раніцою 15 верасня 1916 года ля французскай ракі Соме немцы ўбачылі страшэнныя машыны на гусеніцах, якія, страляючы, рухаліся на іхнія агнявыя пазіцыі.

Некаторыя нямецкія салдаты спрабавалі страляць у іх з кулямётаў і вінтовак, але гэта не дапамагло. Машыны знішчалі на сваім шляху дротавыя загароды, павольна паўзлі на акопы і палівалі немцаў градам куль.

Немцы спалохаліся і пабеглі, пакідаючы гарматы і свае ўмацаваныя пазіцыі.

Гэта былі танкі, упершыню скарыстаныя англічанамі ў вайне. У той час танк рухаўся з хуткасцю ад 3 да 5 кілометраў у гадзіну. Ён важыў каля 28 тон, меў 9 метраў у даўжыню, і 4 ў шырыню. На ўзбраенні танк меў толькі кулямёты.

Стварэнне танка для пачатку 20 стагоддзя— справа не новая. Продак танка—драўляная вежа на колах—з'явіўся яшчэ ў 13—14 стагоддзях. Такая вежа абшывалася тоўстымі дошкамі, у якіх былі выразаны акенцы—байніцы. Вежу падкатвалі да сцяны крэпасці і вялі з яе агонь па ворагу.

Сучасны танк вельмі мала падобны на той, які ўжылі англічане ў 1916 годзе. Ён мае на ўзбраенні не толькі кулямёты, але і гарматы, мае вялікую скорасць і надзейна прыкрывае экіпаж ад куль і снарадаў. Танк сваімі гусеніцамі руйнуе дзоты, бліндажы і акопы. Ён можа праходзіць праз канавы глыбінёй да 1,5 і шырынёй да 2—3 метраў. А спецыяльныя танкі—амфібіі плывуць нават па вадзе.

---

## ЗМЕСТ



На вокладцы: малюнак А. Волкава—узнагароджанне юнага героя.
На ўкладках: Іосіф Вісарыёнавіч Сталін. Панцеляймон Кандрацьевіч Панамарэнка


Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Пушкіна, 55, Дом друку.

Адказны рэдактар А. ЯКІМОВІЧ.

АТ 02056. Здадзена ў набор 5/II-46 г. Падпісана да друку 12/III-46 г. Друк. арк. 2.

Друкарня імені Сталіна. Мінск, Пушкіна, 55. Тыраж 10000 экз. Зак. 36.

# Вучыся хутка лічыць

*(У дапамогу юнаму матэматыку)*

## МНОЖАННЕ НА АДНАЗНАЧНЫ ЛІК

1. Каб вусна памножыць лік на адназначны множнік (напрыклад, $27 \times 8$), выконваюць дзеянне, пачынаючы з множання не адзінак, а дзесяткаў ($20 \times 8 = 160$), потым множаць адзінкі ($7 \times 8 = 56$) і вынікі складаюць ($160 + 56 = 216$).

2. Калі адзін з лікаў, які мы множым, раскладаецца на адназначныя множнікі, трэба паслядоўна множыць на гэтыя множнікі. Напрыклад, $225 \times 6 = 225 \times 2 \times 3 = 450 \times 3 = 1350$.

## МНОЖАННЕ НА ДВУХЗНАЧНЫ ЛІК

1. Калі абодва множнікі двухзначныя, адзін з іх разбіваюць на дзесяткі і адзінкі. Напрыклад, $29 \times 12 = 29 \times 10 + 29 \times 2 = 290 + 58 = 348$.

Разбіваць на дзесяткі і адзінкі выгадней той множнік, які меншы.

2. Калі множымае ці множнік лёгка раскласці вусна на адназначныя лікі (напр. $14 = 2 \times 7$), дык карыстаюцца гэтым, каб зменшыць адзін з множнікаў, павялічыўшы другі ў гэтулькі-ж разоў. Напрыклад: $45 \times 14 = 90 \times 7 = 630$.

## МНОЖАННЕ І ДЗЯЛЕННЕ НА 4 І НА 8

1. Каб вусна памножыць лік на 4, яго двойчы надвойваюць. Напрыклад: $112 \times 4 = 224 \times 2 = 448$.

2. Каб вусна памножыць лік на 8, яго тройчы падвойваюць. Напрыклад: $217 \times 8 = 434 \times 4 = 868 \times 2 = 1736$.

Другі спосаб вуснага множання заключаецца ў тым, што прыпісваюць да множымага нуль (гэта значыць, множаць яго на дзесяць) і адымаюць падвоенае множымае. Напрыклад: $217 \times 8 = 2170 - (217 \times 2)$; $2170 - 434 = 1736$.

А яшчэ лепш рашыць вусна гэтую задачу так:
$217 \times 8 = 200 \times 8 + 17 \times 8 = 1600 + 136 = 1736$.

3. Каб вусна падзяліць лік на 4, яго двойчы дзеляць папалам. $76 : 4 = 38 : 2 = 19$.

4. Каб вусна падзяліць лік на 8, яго тройчы дзеляць папалам. $464 : 8 = 232 : 4 = 116 : 2 = 58$.

## МНОЖАННЕ НА 5 І НА 25

1. Каб вусна памножыць лік на 5, множаць яго на $\frac{10}{2}$, гэта значыць, прыпісваюць да яго нуль і дзеляць папалам: $74 \times 5 = 740 : 2 = 370$.

Пры множанні на 5 чотнага ліку, лепш спачатку дзяліць яго папалам і да атрыманага прыпісаць нуль.

$$74 \times 5 = \frac{74}{2} \times 10 = 370.$$

2. Калі вусна множаць лік на 25, дык спачатку дзеляць яго на 4 і множаць на 100.

Напрыклад: $72 \times 25 = \frac{72}{4} \times 100 = 1800$.

Калі-ж лік пры дзяленні на 4 дае астачу, дык пры астачы 1 прыпісваюць да атрыманага 25, пры астачы 2 — 50, 3 — 75 і г. д.

## МНОЖАННЕ на $1\frac{1}{2}$, на $1\frac{1}{4}$, на $2\frac{1}{2}$, на $\frac{3}{4}$

Каб вусна памножыць лік на $1\frac{1}{2}$, прыкладаюць да множымага яго палавіну ($34 \times 1\frac{1}{2} = 34 + 17 = 51$).

2. Каб вусна памножыць лік на $1\frac{1}{4}$, прыкладаецца да множымага яго чвэртка ($48 \times 1\frac{1}{4} = 48 + 12 = 60$).

3. Каб вусна памножыць лік на $2\frac{1}{2}$, к падвоенаму ліку прыкладаюць палову множымага ($18 \times 2\frac{1}{2} = 36 + 9 = 45$).

4. Каб вусна памножыць лік на $\frac{3}{4}$, множаць яго на $1\frac{1}{2}$ і дзеляць папалам ($30 \times \frac{3}{4} = \frac{30+15}{2} = 22,5$).

## МНОЖАННЕ НА 15, НА 125, НА 75

1. Множанне на 15 замяняюць множаннем 10 на $1\frac{1}{2}$, бо $10 \times 1\frac{1}{2} = 15$. Напрыклад: $18 \times 15 = 18 \times 1\frac{1}{2} \times 10 = 270$.

2. Множанне на 125 замяняюць множаннем на 100 і на $1\frac{1}{4}$, бо $100 \times 1\frac{1}{4} = 125$. Напрыклад: $26 \times 125 = 26 \times 100 \times 1\frac{1}{4} = 2600 + 650 = 3250$.

3. Множанне на 75 замяняюць множаннем на 100 і на $\frac{3}{4}$, бо $100 \times \frac{3}{4} = 75$. Напрыклад:
$$18 \times 75 = 18 \times 100 \times \frac{3}{4} = 1800 \times \frac{3}{4} = \frac{1800+900}{2} = 1350.$$

## МНОЖАННЕ НА 9 І НА 11

Каб вусна памножыць лік на 9, прыпісваюць да яго нуль і адымаюць множымае. ($62 \times 9 = 620 - 62 = 600 - 42 = 558$).

2. Каб вусна памножыць лік на 11, прыпісваюць нуль і прыкладаюць множымае ($87 \times 11 = 870 + 87) = 957$).

## ДЗЯЛЕННЕ НА 5, НА $1\frac{1}{2}$, НА 15

1. Каб вусна раздзяліць лік на 5, множаць яго на 2 і апошнюю лічбу аддзяляюць коскай ($68 : 5 = 13,6$).

2. Каб вусна раздзяліць лік на $1\frac{1}{2}$, множаць яго на 2 і дзеляць на 3 ($36 : 1\frac{1}{2} = 72 : 3 = 24$).

3. Каб вусна раздзяліць лік на 15, множаць яго на 2 і дзеляць на 30 ($240 : 15 = 480 : 30 = 48 : 3 = 16$); $462 : 15 = 924 : 30 = 30\frac{24}{30} =$

$$= 30\frac{4}{5} = 30,8.$$

Такія некаторыя прыёмы вуснага лічэння. Вывучыўшы іх, вы таксама зможаце вельмі хутка і правільна рашаць задачы.

Цана 2 руб. 50 кап.

# ЯК ХЛОПЦЫ „ЯЗЫКА" ДАСТАЛІ...


1.


2.


3.


4.




6.

*Мал. Д. Красільнікава.*